*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 12 мая 1989 г. № 19 (3481) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## АРКЕСТРАЎ ЗВОНКІХ МЕДЗЬ...

Час мяняе захапленні. На жаль, у апошні час становіцца ўсё меней прыхільнікаў і ў духавой музыкі, без якой раней не абыходзілася кожнае, больш-менш урачыстае мерапрыемства. І хоць і сёння ў парках і скверах, на плошчах і вуліцах у час розных святаў гучыць медзь аркестраў, але трэба шмат яшчэ зрабіць, каб вярнуць духавой музыцы колішнюю папулярнасць.

І вось 9 Мая, у Дзень Перамогі, адбылося Рэспубліканскае свята духавой музыкі. Такога відовішча жыхары і госці сталіцы рэспублікі раней не бачылі. Амаль тысяча музыкантаў з'ехалася ў Мінск з усіх куткоў Беларусі—у свяце прынялі ўдзел дваццаць духавых аркестраў.

Удзельнікі свята ўсклалі кветкі да помніка У. І. Леніну на плошчы і да Вечнага агню на плошчы Перамогі, а потым марш-парадам прайшліся па Ленінскім праспекце і вуліцы Янкі Купалы да плошчы Парыжскай камуны. Тут, у скверы ля Тэатра оперы і балета БССР, адбыўся тэатралізаваны канцэрт.

У канцэрце прынялі ўдзел самыя розныя калектывы — фальклорна-духавы ансамбль «Капыльскія дудары» і народны харэаграфічны ансамбль «Чараўніцы», узорны ансамбль танца «Равеснік» Палаца культуры Белсаўпрофа і фальклорна-інструментальны ансамбль «Спадчына» Мінскага інстытута культуры... Гучалі трубы духавых аркестраў Белдзяржкансерваторыі, Гродзенскага, Магілёўскага, Маладзечанскага, Мінскага музычных вучылішчаў. А ўражанні ад выступлення зводнага духавога аркестра і ўвогуле немагчыма перадаць словамі...



Урачыстае закрыццё Рэспубліканскага свята духавой музыкі прайшло ля мемарыяла «Мінск—горад-герой». Апошні акорд яго—мелодыя «Слаўся» М. Глінкі — супаў з першымі залпамі святочнага салюту ў гонар 44-ай гадавіны Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

**НАШ КАР.**



Свята Перамогі... У гэты дзень, як ні ў які іншы, паяднаны між сабой і наш гонар, і наш смутак, і наш боль. Гонар за тое, што савецкі народ не толькі сам выстаяў у барацьбе з фашызмам, але і выратаваў усё чалавецтва ад карычневай чумы. Смутак і боль, бо такой вялікай цаной было заплачана за гэта — цаной дваццаці мільёнаў жыццяў. Мы памятаем гэта заўсёды, і сведчанне нашай удзячнай памяці — кветкі, якія ніколі не вянуць ля магіл, абеліскаў і манументаў.

Здымак зроблены 9 мая на плошчы Перамогі ў Мінску.

## У НУМАРЫ:

## З пошты «ЛіМа»

# • Галасуем за новае выданне.
# • Хто падтрымае гамяльчан?
# • Тэатр — вачыма эканаміста.

□

**НЕКАЛЬКІ** гадоў назад я працаваў у трэсце, які вёў работы на хімічных заводах. Калі бываў на тых заводах, кожны раз здзіўляўся, — як у такіх умовах могуць працаваць людзі! Кожны год асноўныя цэхі гэтых заводаў спыняюць работу на адзін-два месяцы, каб правесці так званыя прыпынначныя, запланаваныя рамонты. Гэта неабходна рабіць, каб пазбегнуць аварый, бо ржа скрозь раз'ядае метал. Вось у артыкуле «Пейзаж з паліфемам на фоне хімзавода» («ЛіМ» за 17.III. г. г.) адзначана, што аднойчы, у святочны майскі дзень, пры нармальным надвор'і на «Хімвалакне» ў Светлагорску рухнуў комін. Сапраўды, гэта так і было. А здарылася аварыя таму, што металічныя расцяжкі, якія ўтрымлівалі комін у вертыкальным становішчы, саржавелі і абарваліся. Па шчаслівай выпадковасці стопяцідзесяціметровы комін упаў паміж цэхамі, а ўпадзі ён трохі правей? Мог бы выбухнуць кіслародны цэх.

Яшчэ хацеў бы сказаць пра так званыя прафесійныя захворванні. Памятаю, папытаўся ва ўрачоў Салігорскай завадской паліклінікі, чаму за першыя 15 год існавання завода было зафіксавана 150 хворых, а ў наступныя гады гэтыя лічбы сталі ў некалькі разоў меншыя? Здавалася б, лічбы павінны расці, бо абсталяванне на заводзе зношваецца, павялічваецца загазаванасць на працоўных месцах. Урачы шчыра сказалі, што раней ім неяк удавалася быць незалежнымі, а цяпер яны ўсё больш залежаць ад мясцовых улад. Кожную ж хваробу можна кваліфікаваць па-рознаму. Напрыклад, ад выпадаў хімічнай вытворчасці могуць узнікнуць розныя хваробы. Ну, напрыклад, гіпертанія. Але паспрабуйце каму даказаць, што гэта хвароба прафесійная. Гіпертанія можа ўзнікнуць ад розных прычын. Ва ўсіх выпадках урачы ставяць дыягназ—агульнае захворванне. Вось і атрымліваецца: паказчыкі па ахове працы на заводзе паляпшаюцца, а здароўе людзей пагаршаецца.

Другі раз, каб супакоіць людзей, кажуць, што ГДК шкодных рэчываў не так уж намнога перавышаюць нормы. Але ж гэтыя рэчывы ўздзейнічаюць на арганізм чалавека не разава, а пастаянна, таму яны назапашваюцца ў арганізме чалавека і прыводзяць урэшце да цяжкіх захворванняў.

**Л. СПЕВАК,**
**інжынер.**

г. Мінск.

□

**НА СТАРОНКАХ** вашай газеты з'явілася нямала артыкулаў, у якіх крытычна разглядаюцца працы па гісторыі Беларусі. Сапраўды, аналітычная, канструктыўная крытыка, крытыка па сутнасці справы спрыяе развіццю гістарычнай навукі ў рэспубліцы. З цікавасцю бý успрынялі артыкул у «ЛіМе» ад 7 кастрычніка 1988 года рэдактара часопіса «Советское славяноведение», кандыдата гістарычных навук А. Каўко «Гісторыя: настаўніца і выхавацелька» (водгук на кнігу «Хрестоматия по истории Белоруссии. С древнейших времен до 1917 г.» Мінск, выд. БДУ імя У. І. Леніна, 1977). Думаем, што дактары гістарычных навук А. П. Ігнаценка і У. Н. Сідарцоў могуць быць удзячнымі аўтару публікацыі за разбор складзенай імі хрэстаматыі, указанне на недахопы, тым больш, што за 11 гадоў з часу выдання, кніга так падрабязна не рэцэнзавалася.

Аднак, на жаль, аўтар рэцэнзіі ухіліўся ад аналізу хрэстаматыі ў цэлым, засяродзіўшы ўвагу больш на праблеме нацыянальнага руху на Беларусі ў перыяд капіталізму, абвінаваціўшы складальнікаў у ігнараванні гэтага важнага фактару гісторыі беларускага народа. Сапраўды, у хрэстаматыі адчуваецца недахоп дакументаў гэтага плана. Але, даючы такую ацэнку, патрэбна ўлічваць той час, калі гэтае выданне выходзіла.

Не сакрэт, што нават да цяперашняга часу праблема нацыянальнага руху на Беларусі недастаткова распрацавана, а ў сярэдзіне 70-х гадоў, калі стваралася хрэстаматыя, дакументы па гэтай праблеме амаль не публікаваліся (ды і зараз мы іх маем небагата). Хоць, мы памятаем, рэдакцыя «ЛіМа» тады правяла вострую дыскусію па гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры (гл. «Заўвагі гісторыка» — 6.01.1970 і «Адказ гісторыку» — 3.03.1970).

У гэтай сувязі неяк не да месца гучаць абвінавачванні некаторых гісторыкаў у «нелюбові да народа», адсутнасці «здольнасцей» і г. д., на якія ўказалі супрацоўнікі навуковага праектна-тэхнічнага аб'яднання «Белбуднавука» ў пісьме, змешчаным у «ЛіМе» (20.01. 89). Магчыма, гэта і справядліва ў адносінах да тых, хто ў застойны час нічога не стараўся рабіць для прапаганды роднай гісторыі. Аднак жа... Не ўсім вядома, што ў працэсе падрыхтоўкі нават гэтага варыянта хрэстаматыі яе складальнікі натыкаліся на кансерватыўнае процідзеянне і нават на «абяцанні», што такая кніга не пабачыць свет. Калі б А. Ігнаценка і У. Сідарцоў паддаліся націску і адмовіліся ад сваёй задумы, выкладчыкі і студэнты і цяпер наўрад ці мелі б дапаможнік, у якім ёсць шмат дакументаў, якія паслядоўна адлюстроўваюць эканамічную і сацыяльна-палітычную гісторыю краю, класавую і нацыянальна - рэлігійную барацьбу мас. Для таго, каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова азнаёміцца з пералікам змешчаных у хрэстаматыі дакументаў.

Вядома, з пазіцый сённяшняга дня, з развіццём гістарычнай навукі становіцца ўсё больш бачным і тое, чаго складальнікам хрэстаматыі не ўдалося дасягнуць, як яе трэба перапрацоўваць і дапаўняць. І мы за перавыданне найбольш цікавых кніг з гістарыяграфічнай спадчыны Беларусі, забяспечаных кампетэнтнымі прадмовамі і каментарыямі. Таму давайце перш за ўсё ацэнім, што змаглі зрабіць А. Ігнаценка і У. Сідарцоў у той няпросты час, і пажадаем ім грунтоўна дапрацаваць і падрыхтаваць новае выданне першай хрэстаматыі па дакастрычніцкай гісторыі Беларусі для вышэйшых навучальных устаноў у адпаведнасці з тымі заўвагамі, якія выказваюць сапраўды зацікаўленыя чытачы. Гэтае выданне пажадана ажыццявіць з прадмовай і каментарыямі на беларускай мове.

**В. ЦЯПЛОВА, В. РУДКІН,**
**Я. НЕСЦЯРОВІЧ, У. СОСНА,**
**супрацоўнікі кафедры гісторыі БССР БДУ імя У. І. Леніна.**

□

**СЯРОД НАВУКОЎЦАЎ** і чыноўнікаў сёння нямала людзей, якія чамусьці баяцца нацыянальнай гісторыі і ўсімі сіламі намагаюцца адгарадзіць ад яе ўсіх нас. З нейкай асаблівай заўзятасцю яны накідваюцца на гістарычную сімволіку, на герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг. Пры гэтым дзесяткі, калі не сотні разоў паўтараецца адзін і той жа аргумент: у час Вялікай Айчыннай вайны гэтымі сімваламі карысталіся паслугачы фашыстаў. Быццам яны ўсё гэта і прыдумалі.

А колькі было тых паслугачоў, якія па сваіх ідэйных перакананнях служылі фашыстам і для якіх тыя сімвалы маглі мець нейкае значэнне? Я не ўпэўнены, што набралася б некалькі дзесяткаў.

Вядома, быў «батальён», была «самаахова», былі паліцаі. Але ў кожным народзе знойдуцца людзі, гатовыя на любую брудную работу. Для іх ніякія сімвалы не маюць значэння.

Практычна гербам «Пагоня» і бела-чырвона-белым сцягам карысталіся чужынцы, тыя ж самыя, што гаспадарылі ў Доме ўрада ў Мінску, ва ўсіх школах, бальніцах, на вакзалах. Дык што з гэтымі ўсімі будынкамі рабіць, калі іх фашысты апаганілі? Можа, таксама разбурыць? Зрабіць тое ж, што і з мінскай Нямігай, што рабілася з рознымі цэрквамі, касцёламі і іншымі помнікамі архітэктуры?

Ёсць яшчэ і больш сур'ёзнае пытанне. Пад ідэйным прыкрыццём якіх сімвалаў знішчаліся людзі — мільёны савецкіх людзей, беспартыйных і камуністаў, рэвалюцыянераў з ленінскай гвардыі і самых сціплых працаўнікоў — у Курапатах, на Салаўках, па ўсёй велізарнай краіне? І ці вінаваты гэтыя сімвалы, што з імі нехта так абыходзіўся?

У намаганнях бэсціць «Пагоню» — прытым без усякай меры — выяўляецца нястрымнае жаданне расправіцца з гістарычнай, а заадно і з нацыянальнай свядомасцю народа, знішчыць яе разам з мовай. У гэтым уся бяда. А тое, што ў беларускага, літоўскага, польскага народаў быў нейкі Грунвальд і што там «Пагоня» натхняла нашых продкаў — прафесійных фальсіфікатараў гісторыі зусім не цікавіць.

А што сказаць можна пра сцяг? Спалучэнне бела-чырвона-белага колеру не мае за сабой такой багатай гісторыі, таксама, як і зялёнага з чырвоным. Але пры гаворцы аб гэтых сцягах не ўлічваецца адна акалічнасць. Чырвоны — гэта не толькі колер пралетарскага сцяга, сімвал сацыялістычнага руху, але і колер сцягоў, пад якімі воіны-беларусы і літоўцы змагаліся супраць крыжакоў, у тым ліку і пад Грунвальдам. «Пагоня» красавалася на чырвоным фоне сцяга. Так што чырвоны колер мае свае глыбокія гістарычныя карані.

А белы? Чамусьці мы забываем, што Русь у нас, як сказаў Францішак Багушэвіч, — **«не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная** яна была, а **белая**, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася». Дык чаму ж гэты белы колер — колер першароднай чысціні, што так надзейна захаваўся ў нашай назве, у найменні ўсяго народа, не павінен захавацца і ў сцягу?

Спалучэнне белага і чырвонага ёсць у нашых суседзяў — палякаў. Паўтараць польскі сцяг у нас няма падставы. А гэта значыць, што патрэбна нейкае іншае спалучэнне, але іменна белага і чырвонага колераў. Гэтага патрабуе гісторыя, гэта апраўдваецца і сучасным станам. Між тым супраць спалучэння белачырвона-белага колераў пакуль што ніхто не выказаў хоць колькі-небудзь пераканаўчых довадаў.

**Уладзімір КАЗБЯРУК,**
**кандыдат філалагічных навук.**

г. Мінск.

□

**СА ЗДЗІЎЛЕННЕМ** прачытаў неяк у друку заметку з прапановай паскарачаць раённыя газеты, зрабіць адну рэдакцыю на 3—4 раёны.

Якія ж довады на карысць гэтага меркавання прыводзяцца? Аказваецца, гэта эканамічна выгадна. Па-другое, «у кожным нумары «раёнкі» немагчыма даваць цікавыя і праблемныя матэрыялы», піша аўтар. Толькі хацелася б спытаць: а ў той жа занальнай гэта можна зрабіць. А ў іншых газетах кожны выпуск мае такія матэрыялы? Ды і наогул: друкаванае слова кідаюць на вагі — выгадна ці не? Ніби пра выраб галёшаў ідзе размова.

Памятаю, у часы Хрушчова была ўжо такая завіруха наконт скарачэння раённых газет. Паразганялі іх работнікаў, потым цэлымі гадамі не маглі ўкамплектаваць рэдакцыйныя штаты.

А ў нас, на Беларусі, тут узнікае і яшчэ адна праблема. Родная мова і так загнана ў запечак, дык яшчэ і раёнку знішчыць? Газету, з якой кожны сельскі чытач пачынае праглядваць пошту?

І яшчэ. Якой бы змястоўнай ні была занальная газета, яе тыраж застанецца ў межах таго раёна, дзе яе пачнуць выпускаць. А то і ўпадзе. Бо каму ахвота будзе чытаць звесткі з трох суседніх раёнаў?

**А. ГОЛУБ,**
**член КПСС, калгаснік.**

в. Пратасы
Акцябрскага раёна,
Гомельскай вобласці.

□

**ПРЫЕМНА** ўразіла аб'ява Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны аб прыёме студэнтаў на першы курс завочнага навучання: на ўсе спецыяльнасці, акрамя спецыяльнасці руская мова і літаратура, уведзен уступны экзамен па беларускай мове і літаратуры (пісьмова) замест ранейшага па рускай (або беларускай) мове і літаратуры. Ужо ад многіх гамяльчан даводзілася чуць, што беларускую мову цяпер трэба вывучаць сур'ёзна.

На жаль, іншыя гуманітарныя вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі, у тым ліку і БДУ імя У. І. Леніна, пакуль не падтрымалі гэта пачынанне гамяльчан. На мой погляд, для сапраўднага, а не на словах, пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы неабходна ўвесці пісьмовы экзамен па беларускай мове і літаратуры ва ўсіх без выключэння ВНУ рэспублікі, а для абітурыентаў з іншых саюзных рэспублік дазволіць здачу ўступнага экзамена па рускай мове і літаратуры. Пры гэтым зрабіць абавязковым вывучэнне беларускай мовы ўсімі студэнтамі двух першых курсаў усіх ВНУ, як, напрыклад, у Літве, дзе студэнты рускамоўных груп вывучаюць літоўскую мову.

Тым самым будзе зроблена добрая перадумова для паступовага пераходу на беларускамоўнае навучанне ў вышэйшых навучальных установах Беларусі. Усё вышэйсказанае справядліва і для іншых форм прафесійнай адукацыі (тэхнікумаў, вучылішчаў і г. д.).

Ніякага прымусу з боку дзяржавы (чаго асабліва баяцца «дэмакраты», якія гадамі ігнаравалі беларускую мову) тут няма: кожны чалавек мае права карыстацца любой мовай, але і дзяржава, рэспубліка мае такое ж права выкарыстоўваць сваю нацыянальную мову ва ўсіх сферах жыцця.

**М. ХАДОРКІН,**
**начальнік аддзела Гомельскага хімзавода імя 50-годдзя СССР.**

□

**ДАЗВОЛЬЦЕ** зірнуць на праект «Праграмы развіцця тэатральнай культуры ў Беларусі» («ЛіМ», 5 мая г. г.). Увогуле, я станоўча ацэньваю вынесены на абмеркаванне дакумент. Але ёсць і дзве заўвагі. Папершае, безумоўна, неабходна пашырэнне і ўзмацненне матэрыяльнай базы тэатраў, аднак за кошт каго і якіх сродкаў? Мяне, напрыклад, адказ на гэта пытанне, дадзены ў І раздзеле — аддаць на разгляд Саветаў народных дэпутатаў, не задавальняе. Лічу, што гэта толькі агульная прапанова. З майго пункта гледжання, трэба весці размову аб тым, каб у планах эканамічнага і сацыяльнага развіцця адпаведных Саветаў народных дэпутатаў асобным пунктам былі прадугледжаны фінансавыя сродкі на гэтыя мэты. Тым больш пра гэта трэба весці размову, бо з наступнага года рэспубліка пераходзіць на так званы рэгіянальны гасразлік, што, адпаведна, павінна даць магчымасць грамадскасці ўплываць на размеркаванне ўласных мясцовых ці рэгіянальных фінансавых сродкаў.

Па-другое, значная частка III раздзела (я б назваў яго эканамічным) носіць дэкларатыўны характар. Прыкладаў багата, возьмем толькі адзін. Так, пасля знаёмства з пунктам аб устаноўцы стабільных эканамічных нарматываў, лімітаў капітальных укладанняў і г. д. напрошваецца пытанне: хто павінен распрацоўваць і ўстанаўліваць тыя нарматывы? Альбо яшчэ — што маецца на ўвазе пад неабходнасцю вяртання творчай прафесіі ў тэатры статусу «свабоднай прафесіі»? Можна толькі здагадвацца.

Такім чынам, хачу падкрэсліць яшчэ раз, трэба абмяркоўваць канкрэтныя эканамічныя прапановы, а не нейкія агульныя думкі, якія проста ствараюць ілюзію іх значнасці. Лічу, што эканамічная частка Праграмы распрацавана не да канца. А калі не будзе сапраўднага эканамічнага забеспячэння, то цяжка будзе што-небудзь ажыццявіць. Усё можа так і застацца на паперы.

**К. ЛАГОЎСКІ,**
**кандыдат эканамічных навук.**

г. Мінск.

# *Пленум праўлення СП БССР*



Гутаркі ў перапынку. В. Быкаў, В. Блакіт і С. Грахоўскі.



С. Законнікаў, А. Дудараў і А. Жук.

ПЕРШЫМ у спрэчках выступіў **В. Рагойша.** Дакладчык і садакладчык, сказаў ён, далі нам па сутнасці два накірункі для нашых выступленняў: навукова-дзелавы і грамадска-палітычны (ці грамадска - публіцыстычны). Важнейшыя пытанні, якія мы сёння абмяркоўваем, звязаны з палітыкай. Амаль год я працую ў ВПШ, якраз там, дзе выхоўваюцца савецкія, партыйныя кадры, дзе яны павышаюць сваю кваліфікацыю. Безумоўна, працэсы, якія адбываюцца зараз у нашым грамадстве, закранаюць рэспубліканскую школу камсамольскіх работнікаў і ідэалагічныя курсы пры ўсіх 6 рэспубліканскіх абкомах партыі. І гэта добра. Калі сёння мы гаворым аб павышэнні культуры беларускай мовы, пашырэнні нацыянальнай самасвядомасці народа, то, як мне здаецца, і ВПШ, і іншыя навучальныя ідэалагічныя ўстановы — не павінны заставацца ўбаку.

Вучэбныя планы ў іх зацверджаны яшчэ да перабудовы. Праўда, у апошні час унесены некаторыя змены. Так, два гады назад у вучэбны план ВПШ уведзены курс «Асновы сацыялістычнай культуры». Але ў большасці планы застаюцца старымі. Мы выкладаем на курсах толькі тыя прадметы, якія рэкамендуе Акадэмія грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Каб павярнуцца тварам да развіцця нацыянальнай свядомасці, трэба перагледзець навучальныя планы гэтых устаноў. Карыстаючыся тым выпадкам, што ў нас сёння прысутнічаюць адказныя партыйныя кіраўнікі, я хацеў бы прапанаваць увесці ва ўсе вучэбныя ідэалагічныя ўстановы рэспублікі курс беларусазнаўства, у якім маглі б сінтэтычна аб'ядноўвацца пытанні культуры, літаратуры, гісторыі Беларусі. Без такога курса і надалей з ВПШ будуць выходзіць партыйныя кіраўнікі, якія не ведаюць культуры Беларусі, яе гісторыі, літаратуры. Нядаўна ў «Звяздзе» былі прыведзены такія лічбы: сярод першых сакратароў райкомаў 96 працэнтаў закончылі тэхнічныя навучальныя ўстановы. Гэта значыць, што 96 працэнтаў кіраўнікоў у ВНУ зусім не вывучалі ні беларускай мовы, ні культуры, ні літаратуры Беларусі. І тут не віна, а бяда іх, што яны, дайшоўшы да пасады сакратара райкома і нават вышэй, не ведаюць многіх элементарных рэчаў з галіны рэспубліказнаўства.

Настаў час, каб у ВПШ, на ўсіх курсах павышэння кваліфікацыі ідэалагічных работнікаў выкладалася і беларуская мова.

Далей прамоўца спыніўся на праблеме так званага «скрытнага» перакладу, калі тэксты, якія першапачаткова ўзнікаюць на рускай мове, перакладаюцца на беларускую і чытачом успрымаюцца як першапачатковa беларускія. Да «скрытнага» перакладу, на думку В. Рагойшы, адносяцца і пераклады класікаў марксізму-ленінізму, партыйных пастаноў і г. д., якія перакладаюцца з рускай мовы ананімнымі перакладчыкамі сектара перакладу Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, выдавецтва «Беларусь», БЕЛТА, дзе, на жаль, працуюць не лепшыя перакладчыцкія сілы рэспублікі. Прамоўца падрабязна спыніўся на пытанні перакладу твораў У. І. Леніна на беларускую мову. Ён адзначыў, што творы К. Маркса і Ф. Энгельса лепш было б перакладаць з арыгінала, г. зн. з нямецкай мовы, а не з рускага перакладу, як гэта маркуецца зрабіць. Перакладамі нярэдка займаюцца людзі выпадковыя, сказаў ён, якія падчас не маюць нават філалагічнай адукацыі, а бывае — проста элементарна непісьменныя. А іх жа прадукцыя штодзённа трапляе на стол чытача ў выглядзе кніг, брашур, перыядычных выдан-

(Пачатак на стар. 7).

кова-тэарэтычных распрацовак па пытаннях развіцця беларускай мовы і культуры ад старажытнасці і да нашых дзён. Пры гэтым ускрыць прычыны, якія садзейнічалі і садзейнічаюць аслабленню нацыянальнай і гістарычнай самасвядомасці ў нашым народзе, у прыватнасці—такія, як лявацка-рэвалюцыйнае вульгарызатарства ў грамадскіх навуках Беларусі, як зруйнаванне галоўнай сацыяльнай базы нашай нацыянальнай культуры—беларускага сялянства, агромністага класа земляробаў, як руйнаванне здаровых народных абрадаў, традыцый, звычаяў і іншай духоўнай спадчыны. Справа ў тым, што яшчэ і дагэтуль касякамі ідуць у друку публікацыі, у якіх адстойваюцца застарэлыя, дагматычныя погляды на нацыянальнае пытанне і яго вырашэнне ў сучасных умовах. Напрыклад, высокатытулаваныя таварышы чорным па беламу пішуць, што нельга беларускай мове надаваць статус дзяржаўнай, бо супроць гэтага быў не хто іншы, як У. І. Ленін. Прачытаеш такое—і думаеш: што гэта? Сапраўды недасведчанасць, няведанне і неразуменне ленінскіх прац па нацыянальным пытанні, ці гэта наўмыснае хітраванне, ашуканства, з разлікам на тое, што масавы чытач газеты або часопіса не палезе ў Збор твораў Леніна правяраць, што, калі і ў якім кантэксце там у яго сказана. А сказана ж так выразна: нельга рускую мову рабіць адзінай дзяржаўнай мовай для ўсёй шматнацыянальнай краіны.

Або: у некаторых псеўдатэарэтычных разважаннях на старонках рэспубліканскіх выданняў увогуле ставіцца пад сумненне самастойнасць беларускага народа, беларускай нацыі. Маўляў, рускі народ адзін, а беларусы, украінцы і вялікарусы—гэта ўсяго тры племені аднаго агульнага народа. Вось так! Жылі мы жылі—і дажыліся: прабыўшы сотні гадоў самастойным славянскім народам —раптам ператварыліся ў племя, адкінуліся назад, у эпоху да фарміравання і станаўлення нацыі. Узнікае пытанне: чаму гэтыя баламутныя пісанні друкуюцца ў паважных выданнях? Скажаце: плюралізм, свабодны абмен думкамі? Выбачайце, гэта не плюралізм, а штосьць іншае. Пазбаўленне цэлага народа, даўным даўно прызнанага ў свеце, права называцца самастойнай нацыяй ёсць публічная абраза гэтага народа. Калі гэта ўсё сур'ёзна—дык абраза такога характару падлягае судоваму пакаранню. Калі ж гэта проста дурнота, неразумныя, блазенскія жарты—дык ці месца ім на старонках партыйных і грамадскіх выданняў? Хоць бы падумалі, таварышы рэдактары, з кім нашы дамашнія тэарэтыкі пяюць ва унісон. Год з гакам назад у Мінску хадзіў па руках, у падазрона вялікай колькасці, экземпляр заакіянскай газеткі «Рускі голас» з вялікім—на дзве поўныя паласы—артыкулам нейкага Радагаста, у якім названы аўтар страшэнна абураецца выступленнямі ў Маскве на пісьменніцкіх з'ездах і пленумах Барыса Алейніка і Ніла Гілевіча і даводзіць, што гэтыя зламысьнікі робяць надзвычай шкодную справу: расколваюць адзіны рускі народ на тры часткі. Тое, што нейкі духоўны водпрыск Пабеданосцава або Каткова залемантаваў за акіянам і змясціў у эмігранцкай газетцы свой «тэарэтычны» опус—мяне не здзівіла. Здзівіла іншае: з якім стараннем гэты опус множыўся на ксераксах і распаўсюджваўся сярод мінчан. Некаму ж вельмі да душы прыйшлася пазіцыя чарнасоценца, некаму вельмі ж хацелася апраўваць і прасвятліць няўцямных беларусаў, якія дагэтуль не зразумелі, што ніякі яны не народ і не нацыя.

Гэта—першае, што нам трэба рабіць дзеля павышэння нацыянальнай самасвядомасці народа: не ўступаць і даваць бой усякай тэарэтычнай блытаніне, хлусні і ашуканству.

Па-другое, нацыянальная самасвядомасць самым цесным чынам звязана з гістарычнай самасвядомасцю, рост першай немагчымы без росту другой. Наша веданне ўласнай гісторыі ўсё яшчэ вельмі прыблізнае, хаця першыя адзнакі перамен, першыя поспехі на шляху перамен—адбываюцца літаральна на вачах: маю на ўвазе грунтоўныя працы М. Улашчыка і М. Ермаловіча, кнігі В. Грыцкевіча, А. Мальдзіса, К. Тарасава, В. Круталевіча і іншых. Маю на ўвазе і выданне нашай літаратурнай публіцыстычнай і навуковай класікі, якое пачалося, выданне нацыянальнага фальклору. Але ўсё гэта, таварышы, зноў жа трэба лічыць толькі пачаткам і знаць і помніць, што ўся работа яшчэ наперадзе, у тым ліку і па выданні нашай літаратурна-гістарычнай спадчыны: беларускіх летапісаў, статутаў, судзебнікаў, твораў палемічнай літаратуры XVI—XVII стст., прац такіх літаратараў і навукоўцаў, як А. Ельскі, і інш. Хачу выказаць і адну зусім канкрэтную прапанову ў гэтым плане, паставіць перад нашымі выдаўцамі адно заданне ў ліку першачарговых. А іменна: калі мы хочам сёння істотна дапамагчы абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці нашага шырокага чытача—трэба неадкладна перавыдаць фотаспосабам усе камплекты газеты «Наша Ніва» за ўсе гады яе існавання. Упэўнены, ні адно навуковае даследаванне тагачаснай гісторыі Беларусі і нават многія разам узятыя не скажуць чытачу столькі, колькі яму скажа «Наша Ніва»—колькі скажа яго душы і сэрцу, яго свядомасці і сумленню! Вядома, перавыдаць яе трэба фарматам у натуральную велічыню, каб лёгка чыталася, і вялікім тыражом. Дарэчы, гэта спыніла б назаўсёды і спрэчкі пра грамадскі і палітычны накірунак «Нашай Нівы»: тысячы чытачоў самі б пераканаліся, што гэта была сапраўды народная газета, адна з самых дэмакратычных газет тагачаснай Расіі. Апрача гэтага, ёсць і яшчэ ў мяне — што датычыць уладанняў Камвыда—адна прапанова. Прапанова гэта, зрэшты, не новая, выказвалася яна ўжо безліч разоў, а воз, як-то кажуць, і зараз там. Сорак восем гадоў назад, у сувязі з нямецка-фашысцкай акупацыяй Беларусі, перастаў выдавацца насценны адрыўны каляндар на беларускай мове. І з таго часу мы, культурная еўрапейская нацыя, дзяржава-заснавальніца ААН, член ЮНЕСКА, жывём без свайго ўласнага календара! Проста ў галаве не ўкладваецца, як можна цягам цэлага паўстагоддзя так не паважаць свой народ, што нават насценнага календара не выдаць для яго. Апошняе племя пігмеяў, утварыўшы сваю пісьменнасць, пачынае з выдання ўласнага календара. Ніводнай нацыі ў свеце няма без адрыўнога насценнага календара на роднай мове. Ніводнай—за выняткам нас, беларусаў. Амаль пяцьдзесят гадоў нашы выдаўцы ўсё тлумачаць нам нейкую прычыну, чаму яны не могуць выдаць беларускі каляндар. Прычына, вядома, смехатворная, калі мець на ўвазе, што нават пры фашыстоўскім урадзе Пілсудскага ў Польшчы выдаваўся адрыўны насценны каляндар на беларускай мове. Што застаецца думаць патрыётам роднага слова? А тое, што такі каляндар у нас не выдаецца наўмысна, таму што гэта эфектыўны сродак штодзённага ўздзеяння на свядомасць многіх тысяч людзей, дакладней—сродак выхавання іх нацыянальнай самасвядомасці. Нехта скажа: ну, навошта так? Ды гэта проста наша бесталковасць і толькі! Не знаю. Бесталковасць даўжынёй амаль у 50 гадоў? Дык чым яна лепш за свядомае злачынства?..

Трэцяе, на што хацелася б звярнуць увагу ў клопатах пра нашу нацыянальную самасвядомасць,—гэта неабходнасць выяўляць, паказваць і прапагандаваць самабытнасць беларускага народа, адметнасць яго характару, яго звычаяў і нораваў, яго фальклору, побыту, а сама найперш—яго мовы. Трэба дапамагаць народу ўсвядоміць гэту сваю нацыянальную самабытнасць. Пісьменнікі, напэўна, лепш за ўсё могуць гэта рабіць сваімі творамі—праз яркія нацыянальныя характары і, канешне ж, праз мову, праз майстэрскае абыходжанне з родным словам. Наконт роднага слова і нашага з ім абыходжання можна гаварыць шмат-шмат невясёлага, і я спадзяюся, што таварышы, якія збіраюцца выступаць, скажуць, не абыдуць гэтага. Адна з самых вялікіх бед нашай мовы—бязбожнае, жахлівае калькаванне з рускай і лексікі, і фразеалогіі, і сінтаксісу. Падобна на тое, што мы ўжо проста не заўважаем у сваёй мове гэтай страшнай немачы. А менавіта гэта калькаванне дае падставу многім недасведчаным людзям рабіць выснову: дык гэта ж тая самая руская мова, толькі сапсаваная, скажоная вымаўленнем! Канешне, мы знаходзімся ў цяжкіх умовах, штодзень і на кожным кроку мы чуем наўкола сябе мову рускую, гэта і робіць неўпрыкмет сваю справу. І аднак жа апраўдвацца не выпадае. Права на апраўданне пісьменніку не даецца наогул. Тою моваю, на якой у нас выходзяць многія кнігі, наўрад ці прывабіш чытачоў, падвысіш аўтарытэт нашага роднага слова. Думаю, што не толькі чытачам, але і нам, аўтарам, трэба часцей чытаць і перачытваць зборнікі беларускага фальклору і класікаў беларускай літаратуры. Навошта, напрыклад, чытаць пяць ці сем тамоў бяскроўна-анемічнага пісання? Лепш пяць ці сем разоў за кошт гэтага прачытаць маленькі томік Лукаша Калюгі —дык узбагацішся не толькі моваю, але і чалавечнасцю!..

Прысутныя ў зале таварышы напэўна ўжо ведаюць, што па ініцыятыве сакратарыята СП БССР у нас стварaецца Таварыства беларускай мовы, ужо адбылося пасяджэнне яго аргкамітэта, працуе рабочая група — рыхтуецца ўстаноўчы з'езд Таварыства. Ініцыятыва гэта, як вы разумееце, прадыктавана тым жа клопатам: скарыстаць і такую магчымасць шырокай грамадскай работы па выхаванні павагі і любові да роднага слова, па абуджэнні нацыянальнай свядомасці, выхаванні патрыятызму і інтэрнацыяналізму. Першыя водгукі на гэту ініцыятыву—і вусныя і пісьмовыя—вельмі добрыя, выказваецца задавальненне і падтрымка. Многія і многія, адчуваецца, гатовы душою падключыцца да такой працы і паспрыяць таварыству.

На заканчэнне хачу бы яшчэ раз падкрэсліць, што праблема праблем і задача задач для нас—абуджэнне і павышэнне нацыянальнай самасвядомасці нашага народа.

На вялікі жаль, усведамленнем гэтай задачы пранікся яшчэ далёка не ўвесь г.зв. дзяржаўны культурны апарат, ці сказаць шырэй—вялізная армія ідэолагаў, асабліва сярэдняга і ніжэйшага звяна. Многія з іх усё яшчэ глядзяць на зусім зразумелыя пачынанні ЦК КПБ і урада рэспублікі з неўразуменнем і нават з асуджэннем: нашто яны, маўляў, заігрываюць там з нацыяналістамі? Замест таго, каб пасадзіць на месца, ідуць у іх на паваду!.. Хочацца верыць, што голас праўды дойдзе і да ўсіх гэтых скептыкаў і нігілістаў. Нядаўняе выступленне ў нас на партсходзе сакратара Віцебскага абкома КПБ І. А. Навумчыка пераконвае, што пры жаданні і добрым асабістым прыкладзе гэта зусім магчыма.

Ну, а пакуль мы павінны рабіць работу такую ж, як і восемдзесят гадоў назад рабілі нашы бацькі і дзяды, беларускія інтэлігенты нашаніўскай пары. Толькі нам у параўнанні з імі намнога цяжэй. Бо яны—цёмных і непісьменных—вучылі ўпершыню, а мы—і пісьменных і нават шыбка граматных—павінны перавучваць нанава.

# ВЫСТУПЛЕННІ Ў СПРЭЧКАХ

няў, гучыць па радыё, тэлебачанні. Думаецца, наспеў час, каб на філфаку БДУ імя У. І. Леніна стварыць хоць бы невялікае перакладчыцкае аддзяленне, на якім бы людзям, ахвочым і здольным да перакладу, прысвойваць яшчэ і нейкую дадатковую спецыяльнасць: карэктара, стэнаграфіста, стыльрэдактара. Пры філфаку універсітэта можна было б арганізаваць і курсы павышэння кваліфікацыі перакладчыцкіх кадраў — для тых, хто працуе ў групах перакладу БЕЛТА, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, выдавецтва «Беларусь», у многіх рэдакцыях раённых, абласных і рэспубліканскіх перыядычных і неперыядычных выданняў. Толькі тады можна было б дабіцца пэўнага паляпшэння якасці беларускамоўнай прэсы.

Дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР **А. Падлужны** ў сваім выступленні засяродзіўся на ўзаемасувязях Саюза пісьменнікаў і мовазнаўцаў. На думку прамоўцы, на цяперашні момант яны вельмі слабыя. А задача ў нас адна — умацаваць пазіцыі беларускай мовы ў грамадстве. Ці ўсё для гэтага зрабілі мовазнаўцы? На жаль, не ўсё. І віна тут не толькі іх. Па-першае, пытанне кадраў. Раней у мовазнаўства ішлі тыя, хто нічога не пісаў. І ў асноўным жанчыны. У нас працуюць людзі, якія скончылі Ленінградскі і Львоўскі універсітэты. Тут таксама ёсць важныя нюансы, зазначыў А. Падлужны.

Па-другое, інстытут, як і з даўніх часоў, заўсёды і фінансаваўся і забяспечваўся па астаткавым прынцыпе. У нас мовазнаўчая навука другаснай катэгорыі, таму ўзнікаюць пытанні і з аплатай і г. д. І калі лінгвіст высокага ўзроўню атрымлівае капейкі, то ён пераходзіць з гэтага інстытута ў іншы.

Зараз вельмі многа гавораць пра культ асобы Сталіна. Але не гавораць пра тое, што раней за Сталіна ва ўстановах усталяваўся культ Мара. Іменна «дзякуючы» яму была закрэслена такая навука, як мовазнаўства. Усе негатыўныя працэсы, якія адбываліся ў грамадстве, адбіліся на якасці лінгвістычных работ. Зусім нядаўна я праглядаў літаратуру з 60-х гадоў па сённяшні дзень. Дык вось, я не знайшоў ніводнага артыкула па адносінах і ўзаемасувязях мовы і культуры. Да месца тут будуць словы Леніна, які гаварыў, што сучасная мова — гэта мова ад Пушкіна да нашых дзён. А што такое наша сучасная беларуская мова? Гэта творы, выдадзеныя ад 30-х гадоў да нашых дзён. Я падтрымліваю прапанову перавыдаць усе экземпляры газеты «Наша Ніва». Зараз мы ў інстытуце прымаем некаторыя меры, каб, што называецца, разварушыць лінгвістаў. Мы абмеркавалі пытанні аб дзяржаўнасці беларускай мовы, і аб яе правапісе. Справа ў тым, што праблема правапісу звязана не толькі з мяккім знакам. Тут нельга спяшацца, патрэбна на навуковай аснове шмат што пераглядзець. Бо ёсць апантаныя прыхільнікі беларускай мовы, ёсць праціўнікі яе, ёсць і такія, хто не вызначыў яшчэ сваёй пазіцыі. І нам патрэбна прыцягваць да сябе гэтую «сярэдзіну». Якімі метадамі? Мы лічым, што галоўнае сёння — гэта станоўчая прапаганда мовы. У заключэнне А. Падлужны працытаваў словы Энгельса, які гаварыў: для таго, каб ведаць родную мову, трэба ведаць усе яе формы.

Выступленне **А. Карпюка** было прысвечана праблемам духоўнасці нашага грамадства, нашай нацыянальнай годнасці. Вяртанне да роднай мовы, на яго думку, гэта толькі частка таго, што мы павінны вырашыць. Галоўнае—нізкі маральны ўзровень грамадства, адсутнасць культуры ва ўзаемаадносінах людзей. Недахоп культуры заўважаецца нават у пісьменніцкім асяроддзі, зазначыў А. Карпюк. Ён таксама лічыць, што няварта забываць пра колішняе існаванне Заходняй і Усходняй Беларусі, моўныя плыні якіх у выніку гістарычных абставін значна розняцца. Гаворкі былой Заходняй Беларусі павінны арганічна ўвайсці ў скарбніцу агульнанацыянальнай літаратурнай мовы.



Рэпліка з залы (А. Асіпенка).

Зразумела, пісьменніцкая арганізацыя існуе найперш для таго, каб развіваць культуру слова, літаратурна-мастацкую культуру, гаварыў **У. Конан.** Але спытаем саміх сябе: ці можа наш пісьменніцкі саюз надалей выконваць гэтую задачу ва ўмовах заняпаду і, больш таго, крызісу жывога бытавання нацыянальнай мовы ў рэспубліцы? Ці ёсць якія-небудзь перспектывы для нашай літаратуры, калі яна страчвае свайго чытача ў выніку яго нацыянальнага «бязмоўя»?

Апошнім часам кіраўніцтва рэспублікі зрабіла важныя карэктывы ў культурна-нацыянальнай палітыцы; фактычна адмовілася ад ранейшай канцэпцыі, паводле якой быццам бы сам беларускі народ (ва ўсякім выпадку яго колькасная большасць) адмовіўся ад матчынай мовы, «дабравольна» выбраў мову брацкага рускага народа ў якасці сваёй «другой роднай». Кіраўніцтва рэспублікі ў рэшце рэшт прызнала (праўда, непаслядоўна, з аглядкай) нацыянальную свядомасць як фактар творчы, сказала пра неабходнасць адраджэння беларускай школы. Якніяк, але гэта ўсё ж пэўны рух наперад.

Чаму ж, прадоўжыў У. Конан, абмяркоўваючы сёння праблему нацыянальнай свядомасці і культуры мовы, мы пакуль што больш схіляемся да смутку і песімізму, чым да радасці і надзеі на здзяйсненне беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння? Відавочна, таму, што на сённяшнім узроўні палітычнай свядомасці і шматступенчатай сістэмы дзяржаўнага і грамадскага кіравання закладзены фактары тармажэння, якія могуць у рэшце рэшт не толькі запаволіць, але і спыніць увесь гэты прагрэсіўны рух да прававой дзяржавы, дэмакратыі і гарманізацыі нацыянальных адносін на аснове паўнаты духоўна-творчага самавыяўлення народа і кожнай чалавечай асобы.

Нашы дырэктыўныя і заканадаўчыя ўстановы пакуль што не выявілі жадання выкарыстаць вопыт гарманізацыі нацыянальна-моўных адносін у 20-х гадах (а гэта быў ленінскі этап) заканадаўчым шляхам (палітыка беларусізацыі і т. зв. «карэнізацыі»). Напомню 22-і артыкул Канстытуцыі БССР 1927 года: «Дзякуючы значнай перавазе у Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы насельніцтва беларускай нацыянальнасці, беларуская мова выбіраецца як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі». У Канстытуцыі БССР 1937 года гэты артыкул ужо адсутнічае, аднак і там гарантавалася раўнапраўе моў «навучаннем у школах на роднай мове». А цяперашняя Канстытуцыя БССР 1978 года абмяжоўваецца толькі «магчымасцю навучання ў школах на роднай мове». Абстрактная магчымасць — гэта яшчэ зусім не прававая гарантыя, падкрэсліў прамоўца.

Сёння кіраўніцтва рэспублікі аддае перавагу не заканадаўчаму і палітычнаму вырашэнню моўна-нацыянальнага пытання, як гэта было ў 20-ыя гады, а шляхам «дабравольнага выбару» і, так бы мовіць, на грамадскіх асновах. Што датычыцца «выбару», то пры сённяшняй структуры грамадства абсалютная большасць будзе выбіраць тую мову, якую выберуць усе ўстановы сацыяльна-палітычнага кіравання, навукі, культуры, вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. І тут адзінае выйсце з тупіковай сітуацыі — пачынаць з кадраў усіх звенняў — зверху да нізу.

А вось нармальны рух «знізу», г. зн. пераважна рух маладых нацыянальна свядомых людзей, мог бы зрабіць тут шмат і ўжо сяго-таго дамогся. Гэта — відавочна ўсім. Аднак ён, мякка кажучы, не ўсім даспадобы. Выглядае трагікамічна, але само паняцце «адраджэнне» прыводзіць некаторых таварышаў да псіхалагічнай алергіі. А між тым, хто знаёмы з гісторыяй славянскіх народаў, у тым ліку беларусаў, рускіх і ўкраінцаў, той ведае, што цыклічныя перыяды нацыянальнага адраджэння руху — заканамернасць іх духоўнага развіцця.

Пра шмат каго з нас, жыхароў Беларусі, сёння можна сказаць беларускай прымаўкай: «Ні госць, ні гаспадар». А гэта ў перспектыве — сацыяльны, экалагічны і маральны крызіс грамадства. Бо страта нацыянальнай свядомасці — гэта і крызіс патрыятызму, хранічная «нестабільнасць» мастацкай, эстэтычнай, маральнай культуры, разбурэнне сям'і, алкагалізм, разрыў арганічнай повязі паміж пакаленнямі, падсумаваў У. Конан.

Старшыня моўнай камісіі БФК, дацэнт МДПІ імя А. М. Горкага **П. Садоўскі** на пачатку свайго выступлення выказаў пажаданне і спадзяванне, што сапраўднае супрацоўніцтва партыйнага кіраўніцтва рэспублікі і інтэлігенцыі павінна ўсё ж наладзіцца. Прамоўца адзначыў, што на сёння гэтага няма, і прывёў факты некарэктных паводзін і дэзінфармацыі, якая зыходзіць з вуснаў асобных прапагандысцкіх работнікаў. Звярнуў увагу П. Садоўскі і на непісьменнасць некаторых матэрыялаў, з якімі выступаюць прапагандысты. Да прыкладу, «Звязда» ў белтаўскім матэрыяле блытае «хэпенінг» з «хэпіэндам», а «Вячэрні Мінск» — «эклектычны» з «электрычным», акадэмік І. М. Ігнаценка і некаторыя іншыя прыпісваюць Леніну выказванні пра нацыянальнае пытанне, вырываючы іх з кантэксту, скажаючы па сутнасці ленінскія ідэі. Такія прыклады можна доўжыць, зазначыў П. Садоўскі. Далей ён засяродзіўся на некаторых выступленнях, якія прагучалі на пленуме. Мне ўяўляецца своеасаблівым палітычным какецтвам сцвярджаць, што дзяржаўнасць нацыянальнай мовы не абмяжоўвае функцыі рускай, У. І. Ленін не баяўся гаварыць аб прынцыпе «кампенсацыі» — стварэнні ўмоў для фактычнай роўнасці малой нацыі за кошт юрыдычнага абмежавання правоў вялікай нацыі. Успомніце ленінскія заўвагі адносна «дэталёвага кодэксу» ўжывання нацыянальнай мовы ў нацыянальных рэспубліках («К вопросу о национальностях или об «автономизации»). Такі закон, «кодэкс» нам неабходны на час жыцця двух-трох пакаленняў, пакуль не будзе ліквідавана тая гістарычная дысгармонія, якая пачала закладацца з часоў Люблінскай уніі.

П. Садоўскі звярнуў увагу і на тое, што ўжо мінуў год, як моўная камісія БФК распрацавала праект праграмы адраджэння беларускай мовы, але ніводнае рэспубліканскае выданне не апублікавала яго. У «Звяздзе» былі дадзены толькі вытрымкі праграмы-мінімум. Прамоўца нагадаў, што ў чэрвені павінна адбыцца рэспубліканская канферэнцыя, дзе неабходна разгледзець усе набалелыя мовазнаўчыя пытанні, у тым ліку, узбагачэнне лексікі, правапісу і г. д. Разам з тым ён зазначыў, што трэба рэабілітаваць беларускі правапіс, рэабілітаваць мову Купалы, Коласа і іншых пісьменнікаў ад ганебных стылёвых памет тыпу «абл.», «разм.» і г. д.

Культура слова — важная, калі не галоўная частка культуры нацыянальнага жыцця, сказаў **А. Пяткевіч.** Высокая пашана да роднага слова, узбагачэнне яго, развіццё ўсіх яго магчымасцей, мажлівасць карыстацца ім у розных сферах дзяржаўна-палітычнага, вытворчага, духоўнага жыцця — ці ж не гэта паказчык культуры і ўвогуле цывілізаванасці грамадства. На вялікі жаль і на вялікі боль наш, гэтыя агульнапрынятыя нормы жыцця не прыкладаюцца пакуль ні да беларускага слова, ні да жыцця беларускай нацыі.

(Працяг на стар. 10).



В. РАГОЙША.



А. ПАДЛУЖНЫ.



А. КАРПЮК.



У. КОНАН.



П. САДОЎСКІ.



А. ПЯТКЕВІЧ.



У. ДАМАШЭВІЧ.

## ДУДАРАЎСКІ «ПАРОГ» У БЕЛФАСЦЕ

**Нядаўна ў «Лірык-тэатры» г. Белфаста (Паўночная Ірландыя) адбылася прэм'ера спектакля па драме А. Дударава «Парог». Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля—В. Раеўскі, сцэнограф—Б. Герлаван, музычнае афармленне А. Рэнанскага.**

— Прыкладна з год таму назад,— расказвае А. Дудараў,— у Лондане праводзіўся своеасаблівы аукцыён савецкіх п'ес. Артысты, размеркаваўшы тэксты па ролях, чыталі п'есы перад кіраўнікамі тэатраў і прадзюсерамі. Мастацкі кіраўнік і дырэктар тэатра з Белфаста, Роланд Джакверэла, чамусьці зацікавіўся маім «Парогам». А запрасіць пастановачную брыгаду купалаўцаў дапамагло яму кіраўніцтва Саюза тэатральных дзеячаў СССР.

На англійскую мову «Парог» пераклала Ніна Фроўд. У невялікай даведцы, змешчанай у прыгожа выдадзенай праграмцы спектакля, пазначана, што яна — пісьменніца і перакладчыца з амаль трыццацігадовым стажам, што ў яе творчым актыве — пераклад шасці рускіх п'ес, у тым ліку і «Дзядзькі Вані» А. Чэхава.

У пераважнай большасці тэатраў Вялікабрытаніі няма пастаяннага штату акцёраў. Артысты запрашаюцца кіраўнікамі тэатра на канкрэтную пастаноўку, заключаецца адпаведны кантракт на тэрмін, пакуль гэты спектакль іграецца. Для ўдзелу ў «Парогу» Роланд Джакверэла запрасіў, напрыклад, з Лондана— Марыян Вілсан (на ролю Аліны), Стэфана Бента (Красоўскі), Алана Дэлвіна (Шаграеў), з Дубліна — Трудзі Кэлі (Маці) і Ноэла Макджы (Мікалай), з Эдзінбурга — Лінду Вайтфорд (Ніна). Галоўную ролю Буслая выконваў у спектаклі даволі вядомы і ў Англіі і ў Ірландыі артыст Біджэй Хуг.

— Працаваць у Белфасце было і цяжка і лёгка,— дзеліцца сваімі ўражаннямі Валерый Раеўскі.— Цяжка, таму што выпусціць спектакль трэба было ўсяго за 19 рэпетыцыйных дзён, з іх толькі тры дні — на сцэне пры поўнай дэкарацыі. Лёгка, таму што калектыў артыстаў і пастановачныя службы «Лірык-тэатра» працавалі на вельмі высокім прафесійным узроўні, з поўнай самааддачай, з паўслова ў літаральным сэнсе разумеючы ўсе заўвагі рэжысёра. У апошнія гады ў Паўночнай Ірландыі значна павысілася цікавасць да жыцця ў Савецкім Саюзе, да навін у галіне культуры і мастацтва. На кожным кроку мы адчувалі цеплыню і добразычлівасць, агульную зацікаўленасць у тым, каб спектакль «Парог» атрымаўся, тым болей, што праблема, якую ён закранае, актуальная сёння і для Ірландыі. На прэм'еры, якую, як нам здалося, гледачы сустрэлі вельмі прыхільна, прысутнічалі шматлікія прадстаўнікі прэсы, і цяпер мы з цікавасцю чакаем водгукаў і рэцэнзій на наш спектакль.

В. НІКІФАРОВІЧ.

## ЧАС І КРЫТЫКА

На чарговым сходзе секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Саюза пісьменнікаў БССР разгледжана пытанне «Аб выданні кніг па крытыцы і літаратуразнаўстве», інфармацыю па якому зрабіў загадчык рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выдавецтва «Мастацкая літаратура» Я. Лецка. Ён назваў найбольш значныя кнігі, што ўбачаць свет у бліжэйшы час і зарыентаваны на самага шырокага чытача.

У прыватнасці, у зборніку «Шляхам гадоў» будуць змешчаны матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры, архіўныя знаходкі, іншыя матэрыялы пошукавага характару. Выдаюцца гістарычныя нарысы М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь». На падыходзе сустрэча з выданнямі з серыі «Спадчына». Напрыклад, сабрана разам крытыка і публіцыстыка Б. Тарашкевіча. Пад адной вокладкай выйдуць «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, яго артыкул «Маладняк» за пяць год», «Слоўнічак братоў Гарэцкіх». Плануецца данесці да сённяшняга чытача спадчыну Я. Барычэўскага, А. Вазнясенскага, І. Замоціна, якія стаялі ля вытокаў беларускай прафесіянальнай крытыкі.

І, вядома, рэдакцыя імкнецца даваць «зялёную вуліцу» кнігам сучасных крытыкаў, у тым ліку і творчай моладзі. Праўда, асобныя аўтары вымушаны па некалькі гадоў чакаць сваёй чаргі, а крытыка ж — гэта жанр баявы, аператыўны. Няблага было б, каб у выдавецтве парупіліся павялічыць колькасць пазіцый па рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі. Адначасова трэба ўвесці яшчэ адну адзінку рэдактара, бо, аказваецца, нагрузка на аднаго рэдактара ў «Мастацкай літаратуры» на адну трэць большая, чым, скажам, у выдавецтвах Украіны.

Пра неабходнасць аператыўна выпускаць кнігі, што проста не могуць «чакаць», гаварылі на сходзе М. Мушынскі, Д. Бугаёў, Г. Каханоўскі, старшыня бюро секцыі Н. Пашкевіч, які вёў пасяджэнне.

На сходзе абмеркавана творчасць А. Рагулі і Г. Тычкі (дакладчыкі М. Грынчык і А. Клышка), якія рэкамендаваны для прыёму ў Саюз пісьменнікаў БССР.

НАШ КАР.

*Паэзія*

**Васіль ЗУЁНАК**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

●

Гісторыі цяжкое памяло
Змятае ў небыццё манархаў прывіды, —
Здаецца і жыцця ў нас не было,
А толькі пераходныя перыяды.

То эра — то карэнны пералом,
То вера — то бязмэтнасці сіндром,
То чыстка — то абдоймішчы з сатрапамі,
То перагібы — з новымі этапамі...

Шалёныя адлівы і прылівы —
І карабель на люкі ўсе задраены.
І толькі іншы раз даешся дзіву,
Што мы пры ўсім і жыць яшчэ
ўмудраемся...

●

Першацвет
На праталіне чорнай,
Першы ён
І таму —
Непаўторны.

Верасовы цвет —
Зімняй поштай,
Незабыўны ён,
Бо апошні.

Цвет —
Як воля,
Як лёс без клеткі,—
Непазбыўная папараць-кветка,
Цвет жаданы
І як турма,
Бо яго
Не было
І няма.

### *Па-сяброўску...*

І разжуюць, і пакладуць у рот,
І ўсё разважаць, і падкажуць дружна,
Папераджальных фраз калючы дрот
Нацягнуць на слупах ахоўнай службы.

І ўсё ім зразумела: што і як,
Куды, чаму, якую ўзяць калейку, —
Каб не папёрся здуру наўскасяк,
Алоўкам шлях накрэсляць пад лінейку.

І ладзяць па-сяброўску прыручыць
І прывучыць — за што, і з кім, і колькі,
І вырашыць: калі душа крычыць —
Ці мне крычаць ці мне ўсміхацца толькі...

Ці гнаць бяскрыла ў глебу карані,
Ці крылы без зямлі ламаць у небе...
О божа, ад сяброў абарані,
Ад ворагаў — я сам змагу як-небудзь...

### *«Дождждык, дожджык, сыпані...»*

Дожджык, дожджык, сыпані!
Я паеду на кані!..
З дзіцячай заклічкі.

Міні-хмарка
І міні-дождж —
Я не чуў яшчэ пра Чарнобыль, —
Шпарка
Шпарыў бы
Басанож,
Калі б гэта ў дзяцінстве магло быць!

Толькі ўзрост ужо, кажуць, не той —
З ног не скінеш часу пантофлі...
Я на працу ішоў пехатой,
З неба чыстага падалі кроплі.

Я дажджынкам твар падстаўляў,
Я не думаў іх браць на пробу,
Я не знаў, што мне ў твар страляў
Ізатопнай шрапнеллю Чарнобыль.

І ніхто мне аб тым не сказаў...
Аж праз некалькі дзён тэлевізар
Супакоіў: «Усё драбяза!
Трошкі атамны дожджык брызнуў...»

Зноў рэактары грозна кіпяць,
А ўваччу—жыццярадасны «тэлік»
І міністраў-монстраў арцелі
Абяцаюць дзяцей купаць
(Не сваіх!) у дняпроўскай купелі...

Мякка сцелюць,
Ды мулка спаць...

●

Адзінка часу нікчэмная —
Жыццё — ад калыскі да смерці,
Вітанне сусвету знячэўнае
У ананімным канверце.

Каму і які патрапіць!
Калі і колькі адмерана! —
Не зналі — ні цар Хамурапі,
Ні ўсе прэзідэнты Амерыкі...

Няма такога відушчага.
І толькі — вечнасць на плечы:
Гэты драбочак адпушчаны
Пранесці б хоць па-чалавечы...

### *Дзеяслоў*

Дзеяслоўная рыфма —
кепская рыфма.
І абознікі, і авангард
Зазубрылі:
па самых нізкіх тарыфах
Гэта рыфма ідзе — як насмешка ці
жарт...
«Сеў» і «з'еў» альбо «выпіў» і
«лыпаў»... —
Тут і ўсё. І славе каюк.
І ўжо крытык амаль што пяском
засыпаў...
Плача верш, як пабіты шчанюк...
Толькі што гэта! — гляньце! — рабы
Гнёту выпрасталі горбы!
Нехта плача, нехта смяецца,
Нехта ў вечным каханні канае,
Нехта ў пошуках ісціны б'ецца,
Нехта ў полымі бітвы згарае... —
Гэта ён, гэта ён — дзеяслоў
Патрасае свет да асноў!
Спапяляе слова кляцьбы,
Прарастае слова сяўбы.
Дык хіба ж дзеяслоў вінаваты ў тандэце!!
Тут ні кроплі яго віны.
Рыфмаплётаў, што словы кідаюць на
вецер, —
Іх судзіце. Паглумцы — яны.
Майстар — слову дае аздобу
І каштоўнасць высокае пробы.
Помніць варта: Купалам і Пушкіным
На Парнас гэта рыфма дапушчана!
Дзеяслоў — дзея слова: падзея,
надзея, —
І душа маладзее, і голас цвярдзее.
Гэта кліч, што паходняй у цемры
успыхнуў.
Дзеяслоўная рыфма —
выдатная рыфма!

●

*У вянок Міколу Гусоўскаму — аўтару «Песні пра зубра», пісанай па-лацінску*

Б'ецца, пеніцца плынь гісторыі.
То выносіць наверх, то змывае.
І на слова — надзея малая.
А яно мне — адзінай апораю...

А яно, — Харона пасрэднікі
Мне сцвярджаюць, крычаць, як вароны,—
Адмірае. У Кнізе Чырвонай
Адзначай — і сялі ў запаведніку...

Як зубра — у загон... Адзінокае,
Першабытна-пругкае целам —
Хай пасецца...
А дума глыбокая
Выбухае ў паглядзе здзічэлым.

А яно — па-зубрынаму ўпартае,
А яно — паміраць не хоча
І нахмураным вокам сочыць,
Хто над шатамі Пушчы каркае.

А яно — не маўчыць у агоніі,
Па вяках адступных і клятых —
У латыні, нібыта ў латах, —
Пралятае Зубрынай Пагоняю.

Старажытнай і юнай песняю
Пра Зубра прабіваецца слова, —
Нашай мовы доля зуброва.
І зубрыны шлях нам накрэслены...

На латыні — Мікола з Гусава,
Я — па кладачцы беларускай...
Гнецца, гнецца кладачка вузкая, —
Ці пяройдзем па ёй беларусамі!..

### *Атамная малітва*

Я ўсім памаліўся: зямлі і небу,
Рэактару, Велехаву, «Патамаку»...
І хто з іх толькі мной не пагрэбваў!..
Ніхто не ўважыў, не даў і знаку...

Тады я ўспомніў самога бога:
«Няўжо ты з войска не звольніш атам!!.»
Чакаю адказу. Не чуць нічога...
О божа, і ты ўжо стаў бюракратам!..

●

Вось і вясна праходзіць,
А дзе яе першы званок!
Хто песню тую пашкодзіў —
Вырак які ці ўрок!..

Дзе першы вястун праталін
З сям'ёй у шэрым быллі!
Які там птушыны Сталін
Іх выселіў з роднай зямлі!..

Дзе тая радасць дзіцячая,
Якую мы ўсю зіму
Чакалі з краёў гарачых,
Печ маючы за турму!..

Дзе вырай, што наперагонкі
Мы беглі вітаць басанож!
Хто горла нябесна-звонкае
Зацята пусціў пад нож!..

Я знаю, хто вінаваты —
Мне ў полі вецер сказаў:
Гудуць у крыві хімікаты
І рэжуць вастрэй ляза...

На жаўранках і на дзецях
Зрываецца вышыня...
І не чуваць у леце
Шчэбету птушанят...

Пад гербецыднай «мухаю»
Таксікаманы-палі
Ужо і не помняць, аглухлыя,
Дзе ўчора гнёзды былі...

Даўжэюць, цяжэюць ночы,
А песні я так і не чуў...
...Памру — сюды хоць аднойчы
Жаўранкам прылячу.

## МОВА ЗНАХОДЗІЦЬ СЯБРОЎ

У маладзёжным цэнтры «Рытм» Фрунзенскага раёна горада Мінска адбылася незвычайная сустрэча. Па ініцыятыве калектыву супрацоўнікаў дзіцячага сада № 399 Мінскага вытворчага аб'яднання «Прамень» сабраліся педагогі і выхавацелі дзевяці дашкольных устаноў, каб абмяняцца вопытам работы па навучанні роднай мове дзяцей, фарміраванні граматычнага ладу і гукавой культуры беларускай мовы, выхаванні ў дашкалят цікавасці да твораў беларускіх пісьменнікаў.

Імправізаваныя занядкі па развіцці беларускай мовы ва ўсіх узроставых групах правялі выхавацелі дзіцячага сада № 399 В. Мілічанка, Л. Пісарава, С. Белязяк, Р. Фальковіч. У ролі дзяцей былі госці. У час імправізаваных заняткаў «дарослыя дзеткі» і кашку смачную паелі, і коціка-варкоціка пашкадавалі, і казку «Пых» успомнілі, а, «пілуючы дровы», гукі «дж» і «дз» вымаўляць вучыліся. А галоўнае, змаглі прадэманстраваць разнастайныя метады і прыёмы работы, каб беларуская мова станавілася для дзяцей блізкай і роднай.

Пра гэта гаварылі і госці з дзіцячага сада № 266 Р. Туфкрэо і А. Каўшавацкая, якія адны з першых у горадзе пачалі такую работу.

Выхавацелька дзіцячага сада № 362 вытворчага аб'яднання «Прамень» Н. Дзянякіна падкрэсліла важнасць работы па знаёмству дашкалят з творамі беларускіх мастакоў.

З цікавасцю выслухалі педагогі рэкамендацыі загадчыцы кабінета беларускай мовы і літаратуры гарадскога Інстытута ўдасканалення настаўнікаў Л. Кацянёвай, а адказны сакратар часопіса «Вясёлка» Т. Тарасава гаварыла аб ролі часопіса ў выхаванні дзяцей.

Народныя песні, казкі, прымаўкі і прыказкі — невычэрпная крыніца народнай мудрасці. Гэтую дзіўную прыгажосць прадэманстравалі калектыў дзіцячага сада № 474, паказаўшы свае «Вячоркі» пад чароўныя гукі гармоніка, скрыпкі і цымбалаў. Можна толькі шчыра пазайздросціць дзецям, якія наведваюць гэты садок.

І калі была перагорнута апошняя старонка сустрэчы, прысутным не хацелася разыходзіцца. Яшчэ доўга дзяліліся яны ўражаннямі ад пачутага і ўбачанага. Новы позірк на вывучэнне роднай мовы дапаможа ім у ажыццяўленні задач па выхаванні нашых дзяцей сапраўднымі патрыётамі свайго краю.

С. ЦЫРГАНОВІЧ,
загадчык дзіцячага сада.

# ДЗЕ КАНЧАЕЦЦА ПРАВІНЦЫЯ

**ЛІСТКІ З ПОЛАЦКАГА СШЫТКА**

## Лісток першы

Дружа мой, чытач! Шкада, што не завітаў ты ў Полацк хоць на паўдня, хоць на які з канцэртаў... Хочаш, каб я сёстое распавяла? Паспрабую. Акурат дзеля гэтага і разгарнула чысты сшытак. Праўда, як бы зараз ні расстаралася пяро, яно не здолее ўзнавіць эфемерны і стракаты гукавы кілім з відарысам фестывальнага Полацка.

Пяро народзіць толькі словы. А пабачу шнурочкі сваіх радкоў на паперы — бянтэжуся: рантам ты маім уражанням, чытач, веры не дасі? Але павер, павер: тое, што другі год запар адбываецца ў старажытным, знакамітым гістарычна, ды сёння досыць далёкім ад музычных сталіц горадзе, — і сапраўды дзівосны падарунак лёсу.

Мо памятаеш, год таму 6 мая былі ў «ЛіМе» нататкі з І Усесаюзнага фестывалю старадаўняй і сучаснай камернай музыкі, наладжанага ў Полацку. Сёлета зноў — з 15 па 23 красавіка — туды наведалася свята. Славуты аркестр Генадзя Раждзественскага, сусветна вядомы Ансамбль салістаў аркестра Вялікага тэатра Саюза ССР, выдатны харавы калектыў пад кіраўніцтвам Валерыя Палянскага, з якім выступаў і Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі...

Дарэчы, цябе не здзіўляе, што прыезд на Беларусь такога сузор'я выканаўцаў апынуўся быццам бы «на перыферыі свядомасці» рэспубліканскага друку і тэлебачання, нашых кіраўнікоў культуры і ладнай часткі мастацкай інтэлігенцыі, найперш музыкантаў? Ну, хай сабе не было асаблівай рэкламы і афіцыйнай увагі да полацкага свята летась. Гэта можна сяк-так апраўдаць: фестываль праводзіўся ўпершыню не ў абласным нават цэнтры, па інерцыі маглі паставіцца да яго як да чыста мясцовага, правінцыйнага і выпадковага мерапрыемства. Аднак жа дастаткова было глянуць на афішу, каб пераканацца: тыя канцэрты на перыферыі даюць фору праграмам сталічнай «Мінскай вясны»!

Сёлета здзіўляліся госці-музыканты: чаму надзвычай прэстыжны, але ўсё ж ёмісты цяжар фестывалю ўжо другі год самааддана нясуць палачане? (Уяві сабе, дружа, чаго каштуюць канцэрты, калі, напрыклад, толькі ў адным са славутых калектываў гастрольная стаўка музыканта — 50 рублёў). На шчасце, ладную долю фестывальных выдаткаў бярэ на сябе «Саюзканцэрт» на чале з дырэктарам М. Бутавым. Будзем удзячныя, што ўнікальнасць полацкага музычнага свята разумеюць і цэняць у Маскве. Але чаму ўбаку ад гэтых клопатаў застаецца наша рэспубліка? Полацкі гісторыка-археалагічны запаведнік, на базе якога і арганізуюцца канцэрты, працуе ўсё ж такі пад шыльдай Міністэрства культуры БССР.

Ганю ад сябе думку, што сёння дзесьці яшчэ знойдзецца чалавек, для якога полацкія фестывальныя канцэрты —мястэчковыя забавы, накшталт нядзельнага кірмашу. Не-не, быць такога не можа! Наадварот: знаходзяцца энтузіясты, якія і з Мінска едуць у Полацк, хоць на суботу-нядзелю, удыхнуць паветра фестывалю, прычасціцца гаючай атмасферай высокай духоўнасці. Бачыла я ў зале адну са старэйшых нашых музыказнаўцаў Н. Юдзеніч, пісьменніка У. Арлова; а некалькі знаёмых мінчан прыехалі на выхадныя са сваімі дзецьмі-падлеткамі.

Прыемнай неспадзеўкай было сустрэць тут і Ю. Гільдзюка — мастацкага кіраўніка Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Ён завітаў у Полацк з Масквы, дзе вырашаў службовыя справы, і аказаўся адзіным на фестывалі, так бы мовіць, прадстаўніком дзяржаўных устаноў культуры Беларусі. Летась у «ЛіМе» прагучалі крытычныя закіды: маўляў, кіраўніцтва БДФ, па сутнасці, праігнаравала першы полацкі фестываль і не скарыстала яго як нагоду для навяздження дзелавых сувязей з сусветна вядомымі музыкантамі. Цяпер Юрый Мікалаевіч нагадаў мне пра тое, і, здаецца, без крыўды. Дый навошта крыўдаваць за леташнюю крытыку, калі зараз можна парадавацца: асабістыя гутаркі Ю. Гільдзюка з выдатнымі музыкантамі, неафіцыйныя праходкі з імі па ціхіх вулках Полацка далі надзею, што, можа, і Г. Раждзественскі, які ніколі не быў у Мінску, выступіць, нарэшце, у беларускай сталіцы. Ва ўсякім разе, мастацкаму кіраўніку філармоніі маэстра тое паабяцаў.



Лаўрэат міжнароднага конкурсу дырыжор В. Палянскі з музыкантамі Дзяржаўнага камернага аркестра БССР.

## Лісток другі

**Быў фестываль часцінкай жыцця горада, а жыццё горада — часцінкай жыцця прыроды... Летась мы ехалі ў Полацк чыгункай, казіраючы нясмелы, прытармажаны халадамі, рух вясны. Гэтым разам склалася інакш: каціілі па асфальце, праз шырокія шыбы «Ікаруса» разглядалі прыкметы сёлетніх, занадта ўпэўненых, уваходзін «раніцы года».**

**Сінеліся зыркімі букецікамі пралескі; сонечным цяпельцам свяціліся коцікі вярбы; бель веснавых кветак разлілася «ля ног» сырога цёмнага бору. Прамінулі маляўнічыя пагоркі пад Лагойскам. Потым праехалі паўз шчодры дар Лепельшчыны — азёры. Бліжэй да Полацка наглядзеліся на жывыя, неасушаныя балоты: бліскучыя асколкі вады, рассыпаныя паміж ссохлых купін; чэзлыя тычкі хваін, бяроз. А высушаныя тарфяныя палеткі каналі ад нябачнага агню, і над імі белым палатном цягнулася пахкая палоска дыму. Тарфяны дым даймаў нас, пакуль не заехалі ў вечаровы Наваполацк і не выгрузіліся ля прыступак гатэля.**

**Што ні робіцца — да лепшага: раніцай надвор'е крута змянілася, павярнула на халадэчу, дождж на тыдзень «прыбіў» балотны пажар, і ўгарны дым пакуль не запаўзаў у горад, паветра якога і без таго...**

**Чытач мой, ты, можа, ніколі не быў у гэтым горадзе, але пра тутэйшае паветра ведаць павінен. Пра экалагічную катастрофу, якая пагражае маладому гораду, ужо столькі сказана. (Быў і ў «ЛіМе» артыкул — «Смог»). Зразумела, найпершы мой абавязак — гаварыць пра фестывальную атмасферу ў Полацку, а не пра экалагічную небяспеку, у якой апынуўся яго бліжэйшы прамысловы сусед. Журналісцкія доследы гэтай тэмы я і не рабіла, але ж абмінуць яе зусім — не магу.**

**Дык вось. Кругагляд мінскіх журналістаў поўніўся новымі назіраннямі, бо летась мы кватаравалі ў самім Полацку, а цяпер жытло далі ў суседнім горадзе. Па дарозе мы прыгледзеліся да полацкіх ускраін. Удружылі ж сабе людзі! Многія сучасныя дамы, у якіх яны жывуць, не радуюць вока. Сцены «нямытага» колеру, аздобленыя нейкім рабаціннем з дробных каменьчыкаў, шчарбатыя і парэпаныя, быццам прастаялі не пару дзесяткаў гадоў, а пару соцень. Над балконамі лунае, вітаючы вулічны рух, такая размаітая бялізна, што па ёй, здаецца, беспамылкова можна вызначыць пол, узрост і камплекцыю насельнікаў цэлага квартала.**

**Ну, дык што з таго? А нічога. Проста праз некалькі аўтобусных прыпынкаў — Наваполацк. У яго забудове, здаецца, больш культуры, густу і фантазіі. (І музвучылішча месціцца, дарэчы, тут). Вылузваецца сонца з хмар, люд шыбуе па вуліцы, нарэшце, без парасонаў — прыемна глянуць у акенца, і хочацца далучыцца да гэтага руху, прайсці па светлай Маладзёжнай вуліцы. Але на вуліцы сонца ўжо не радуе; удаецца пераадолець два кварталы пешкі, каб паспешліва зноў уціснуцца ў аўтобус. У ім, хай цесным, перагрэтым, — збавенне. Бо наваполацкае паветра, мой дружа, на радасць хіба што таксікаманам, дыханне перасмыкае, нібы ад свежых пароў нітралаку.**

**Можа, выбрыкі гарадскога паветра — выпадковасць? Можа, гэта мае «непасрэдныя» адчуванні, а самі палачане папрывыклі дыхаць «усёй табліцай Мендзялеева»? Мы ж, напрыклад, ужо на трэція суткі прызвычаіліся да смаку водаправоднай вады — яна ў Наваполацку таксама «дзіця вялікай хіміі» і патыхае нейкімі сінтэтычнымі рэчывамі. Але прывычка ад хваробы не ўратуе...**

**Дзесяткі тысяч жыхароў горада дыхаюць шкодным паветрам, карыстаюцца нежывою вадой. Што з людзьмі будзе? Ці дачакаюцца іхнія дзеці ўнукаў, а ўнукі — дзяцей?**

**Амаль увесь свет гаворыць пра нашчадкаў Чарнобыля. Але дарэмна замаўчалі пра іншых — пра дзяцей таго ж Наваполацка ці Салігорска... Зрэшты, чытач мой, ты цудоўна ведаеш: прамысловы дым, сцёкавая вада, выхлапны газ не вядуць аседлае жыццё, не зважаюць на тэрытарыяльныя межы — вандруюць па свеце на хвалях ветру, у дажджавых хмарах. Хто скажа, мо зараз у небе над тваім домам прыпынілася нязваная госця — аблачынка з Наваполацка?**

**Яшчэ ты ведаеш, чытач мой, што ад невыноснага прыгнёту гэткіх думак чалавек або шалее, або робіцца Чалавекам. Ён робіцца Чалавекам, калі дух дабрыні, святлынь душы і мудрасць сумлення, стваральны талент і творчы дар дапамагаюць яму жыць. Памнажаць жыццё, дзяліцца жыццядайнаю сілай з тымі, хто побач.**

**Дык вось, такіх людзей я тут бачыла, на канцэртах. Твары ў іх адухоўленыя, вочы зацікаўленыя, сур'ёзныя і спагадлівыя. І што ж у тым дзіўнага: людзі зведалі на сабе невытлумачальную сілу сапраўднага мастацтва, паверылі ў яе невычэрпную жыццядайнасць...**

**На фестывалі ў Полацку аншлагі; у залу бяруць малых дзяцей, і тыя не нудзяцца, — а чаму гэта павінна здзіўляць? Далучанасць з першых гадоў жыцця да музычнай культуры — НОРМА існавання духоўна развітога чалавека. Музыка засцерагае яго ад пошласці, тупасці, шаленства. Бяда, дружа, што вельмі многія пра гэта проста не здагадваюцца і пераканана ладзяць сваё «нармальнае» жыццё пад абывацельскі акампанемент гукавога шырспажыву.**

## Лісток трэці

Тут няма нічога ад стандартаў канцэртнай залы. Ні роўных сцен і пляскатай столі, ні мяккіх крэслаў і фае для аматараў «сябе паказаць», ні буфета. Храм ёсць храм. Яго кіёск гандлюе арыгінальна аформленымі фестывальнымі праграмкамі, камплектамі рэпрадукцый «Полацк на старых паштоўках» (выдадзена па заказе гісторыка-археалагічнага запаведніка), унікальнымі грамзапісамі, зробленымі пад скляпеннямі Сафійскага сабора. «Всенощное бдение» С. Рахманінава; канцэрты Д. Бартнянскага ў выкананні хору пад кіраўніцтвам В. Палянскага; першы дыск «Музычны фестываль у Полацку» (фрагменты канцэртных выступленняў яго гасцей)...

І публіка, і самі музыканты літаральна запасаліся пласцінкамі, збіралі на іх аўтографы дырыжораў. Гэта і сувенір, і магчымасць узнавіць трапятлівы дух фестывальных вечароў, і высокі ўзор мастацтва: музыка, выкананне, якасць запісу — выдатныя! А тыраж пласцінак невялікі, хутка яны будуць рэдкасцю.

Брыгада з Усесаюзнай студыі грамзапісу «Мелодия» зноў працавала на фестывалі і зноў пад кіраўніцтвам вядомага высакакласнага гукарэжысёра І. Вепрынцава. Уявi сабе, чытач, як цяжка будзе рэдактару фірмы грампласцінак скласці другі дыск «Музычнага фестывалю ў Полацку»: запісана некалькі гадзін гучання музыкі!

Распачаўся фестываль выступленнем хору В. Палянскага. Духоўная музыка — паўнапраўная гаспадыня храма... Дырыжор прадставіў яе ў глыбокай і дынамічнай праграме: ад кананічнай строгасці, суровых фарбаў Д. Бартнянскага (канцэрты для хору), праз невядомую для многіх захопленую малітоўнасць П. Чайкоўскага (фрагменты «Літургіі святога Іаана Златавуста») — да ачышчальна - ўзнёслага і яркага «харавога светлапісу» С. Рахманінава (фрагменты «Всенощного бдения»).

Жанравая палітра свята не абмяжоўвалася харавымі і камернымі інструментальнымі творамі: гучалі сімфоніі І. Гайдна і Д. Шастаковіча, Меса Ф. Шуберта, інструментальныя канцэрты В. Моцарта, І. Стравінскага, А. Шнітке, «Руская уверцюра» С. Пракоф'ева, Трэцяя аркестравая сюіта П. Чайкоўскага... Мала таго: шматлюднаму аркестраваму калектыву Г. Раждзественскага проста немажліва было размясціцца на сцэне Сафійскага сабора. Таму два дні аркестр выступаў у Палацы культуры ВА «Шклозвалакно», а ўжо яго камерны склад іграў затым два канцэрты ў саборы.

Досыць тыповае, «са шкла і бетону», з нягоднай акустыкай збудаванне, пагадзіся, не храм. Але гаспадары фестывалю зрабілі немала, каб стварыць і тут атмасферу свята. Нядзельны сімфанічны канцэрт наладзілі днём, каб змаглі патрапіць на яго педагогі і навучэнцы музычных школ Віцебшчыны. Разгарнулі продаж пласцінак. Прывітальнай беларускай песняй і караваем сустрэў гасцей харавы калектыў Наваполацкага музвучылішча (кіраўнік М. Калацэй). Дзяўчаты ў нацыянальных строях падарылі музыкантам памятныя керамічныя медалі, а Г. Раждзественскаму быў уручаны сімвалічны ключ ад Полацка. Раждзественскі ўсміхнуўся (маўляў, спрабаваў падабраць гэты ключ да гарадской брамы яшчэ на леташнім фестывалі) — і прапанаваў паслухаць творы трох тытанаў XX стагоддзя: Пракоф'ева, Стравінскага, Шастаковіча.

Ведаеш, дружа, адзін агульны наш знаёмы (бяда, што ён не адзіны — такіх нямала) даводзіў бы зараз пра «баланс аркестравых груп», «чысціню інтанацыі і культуры гуказдабывання», «дакладна пазначаныя кульмінацыі», «падпарадкаванасць музыкантаў дырыжорскаму жэсту» і да т. п. А Раждзественскі — **проста вялікі артыст і мастак.** Разам са сваімі музыкантамі ён вось тут, у зале, «священнодействует», творыць услед за кампазітарам, ажыўляе непаўторнае гукавое палатно.

Вуглаватая грацыя музыкі XX стагоддзя, яе небанальная пікантная прыгажосць. Яе магутныя і драматычныя ідэі... Скажы, навошта расцягваць жывое палатно музыкі па нітачках, прэпарыраваць, прыціскаць да паперы чыгуннымі кніжнымі штампамі? Чыёй душы ад гэтага карысць?

## Лісток чацвёрты

**Генадзь Раждзественскі, магнетычная абаяльнасць, красамоўная міміка, артыстычны тэмперамент якога ўразілі нас яшчэ летась, на рэпетыцыі ў Сафіі, калі мы крадком сачылі за тварам дырыжора з-за куліс... Пасля канцэрта мы з калегамі прайшлі ў дырыжорскі пакой (Генадзь Мікалаевіч не адмовіўся з намі пагутарыць) і ці не паўгадзіны чакалі, пакуль схлыне чарга паклоннікаў.**

**«Сам» — за столікам, у бездакорным фраку; пальцы левай рукі сціскаюць прытушаную цыгарэту, правая ставіць аўтографы: на праграмках, на пласцінках. На століку ноты; распісны чайнік і кубак з недапітай гарбатай; адмысловая піраміда кошыкаў з гваздзікамі; толькі што падораны том Скарынаўскага энцыклапедычнага даведніка. Усё гэта яшчэ і маляўніча адбіваецца ў шырокім люстэрку...**

**Хтосьці папрасіў паглядзець партытуру 10-й сімфоніі Шастаковіча. І Раждзественскі між іншым расказаў. што напісана**



«Поліфанічнае танга» (лаўрэат Ленінскай прэміі Г. Раждзественскі).

**яна ў 1953 годзе, што II частка (чатырохмінутная), як яму тлумачыў кампазітар, — гэта музычны партрэт Сталіна. Што сёння ён іграў гэтую сімфонію ў саракавы раз і зноў *пасля яе* адчуванне такое, быццам заўтра ўжо нічога нельга будзе сыграць.**

**Генадзь Мікалаевіч нярэдка сам вядзе і каменціруе свае канцэртныя праграмы. Чаму? Ён перакананы, што павінна існаваць прадуманая сістэма нясення мастацтва людзям, што тлумачальнае слова неабходнае, асабліва да выканання незнаёмага для публікі твора. А пачаў каменціраваць праграмы тады, калі пачытаў анатацыі да сваіх канцэртаў. Столькі ў тых анатацыях было штампаў, фальшу і да т. п., што вымушаны быў выказваць слухачам свой пункт гледжання на музыку.**

**Ад Полацка, у які ён трапіў дзякуючы арганізатарскай энергіі дырэктара гісторыка-археалагічнага запаведніка Т. Рудавай, уражанні ў маэстра прыемныя. А розніцы паміж публікай полацкай і, скажам, нью-йоркскай ён як музыкант для сябе не робіць (вонкавае аблічча аўдыторыі значэння не мае). Таму і не робіць паблажлівасці для той ці іншай публікі. Таму і гучыць у Полацку самая розная і самая складаная музыка. І палачане апраўдваюць дырыжорскі давер. Нават ад «снабісцкіх опусаў» Шнітке, насуперак перасцярогам і прагнозам розных зычліўцаў, людзі не адварочваюцца, бо з дапамогай музыкантаў-мастакоў, музыкантаў-асветнікаў адкрываюць у іх прыцягальную сілу, якая даўно адкрыта ў лепшых творах мінулага.**

## Лісток пяты

Яе энтузіязм — не «гульня на публіку». Ён шчыры і дзейсны, таму варты самых захопленых слоў. (Мой чытач, ты, пэўна, здагадаўся, што захапленне сваё я адрасую Таццяне Давыдаўне Рудавай). Яна адчувае і цэніць сапраўдныя духоўныя каштоўнасці і бескампрамісна змагаецца за тое, каб пацягнуліся да гэтых каштоўнасцяў яшчэ не абуджаныя і яшчэ не засохлыя душы. Фестываль — шмат у чым яе асабістая заваёва, абараняць якую Т. Рудавай дапамагаюць супрацоўнікі запаведніка.

Хоць і другое музычнае свята атрымалася надзвычай яркае, у размовах пра яго Т. Рудава настройвалася на досыць крытычны лад. Не ўдалося сёлета дамовіцца з музыкантамі Эстоніі і Літвы, а хацелася ж геаграфічнай разнастайнасці на фестывалі. Не ўдалося прадухіліць *непаразумеласці* і накладкі ў рабоце полацкай сферы паслуг, а хацелася, каб усе службы горада бесперабойна ўключаліся ў настрой і і рытм свята. Прыемна было бачыць у зале і людзей з розных раёнаў Віцебшчыны, і мінчан, ды калі б да правядзення фестывалю далучылася Міністэрства культуры рэспублікі, яно магло б паспрыяць арганізаванаму прыезду студэнтаў і выкладчыкаў кансерваторыі, інстытута культуры, Мінскага музвучылішча на суботнія і нядзельныя дзённыя канцэрты.

Мы нямала гаварылі з Таццянай Давыдаўнай пра складанасці арганізацыі штодзённага канцэртнага жыцця ў саборы. Цяпер на ніве культуры шчыруюць кааператывы; нярэдка яны прапануюць звычайную халтуру. У гэтых умовах супрацоўнікі запаведніка робяць акцэнт на планамернасці заняткаў з маладзёжнай аўдыторыяй, са школьнікамі розных узроставых груп, каб праз 5—6 гадоў падрыхтаваць аўдыторыю для канцэртнай залы.

Але корань праблем Т. Рудава (і, вядома, не толькі яна) бачыць у тым, што ў нас увогуле дрэнна наладжана музычная адукацыя. Стаўка робіцца на развіццё сеткі музычных школ. Але пакуль заняткаў музыкай не будзе ў агульнаадукацыйных школах — абавязкова для ўсіх, штодзённа, з нулявога класа па дзесяты, ніколі мы не дасягнём жаданага эфекту ў культурным развіцці і выхаванні. А ў музшколах няхай вучацца не ўсе, хто захоча, а толькі асабліва даравітыя дзеці, будучыя спецыялісты-музыканты.

Полацк, Наваполацк — гарады індустрыяльныя. Я не ўстрымалася, папытала: ці ведаюць прамыславікі пра існаванне музычнага свята? Субяседніца *мая* досыць крытычна выказалася пра кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў. Многіх «важакоў» яна ведае ў твар і, на вялікі жаль, заўважае, што яны на канцэрты не ходзяць. Дырэктар, парторг, старшыня мясцкома, камсамольскі лідэр — яны ж усе па абавязках сваіх выхавацелі, ад узроўню іх духоўнага, эстэтычнага развіцця, ад іхніх жыццёвых інтарэсаў залежыць вельмі многае! Нельга абмяжоўваць свае духоўныя патрэбы толькі рыбалкай, застоллем, тэлевізарам і штодзённымі газетамі. Да таго часу, пакуль кіраўнікі ўсіх рангаў не зразумеюць, што неад'емнай часткай выхавання грамадства з'яўляецца далучэнне да мастацкай, духоўнай культуры, мы не здолеем дамагчыся і культуры працы. Культура ў шырокім сэнсе вызначае і эканоміку, і палітыку.

...З Таццянай Давыдаўнай мы бачыліся штодня. Іншую гаспадыню музычнага фестывалю я не магу сабе ўявіць.

## Лісток шосты

**Час на фестывалях сплывае-зліваецца ў адзін вялікі дзень. Дык што яшчэ, мой чытач, было ў гэты «дзень»?**

**Ля гістарычнага будынка брацкай школы завіхаліся рабочыя: тут размесціцца музей кнігадруку, адкрыццё якога *прымеркавана да святкавання* 500-годдзя слыннага палачаніна Скарыны. Мы змаглі агледзець адкрыты пасля капітальнага рамонту краязнаўчы музей, і на ўсе нашы пытанні ярка і глыбока адказаў зусім яшчэ малады краязнавец, студэнт-завочнік, пра якога супрацоўнікі запаведніка пачціва гаварылі нам потым: «Гэта наш Леў Фёдаравіч. А прозвішча ягонае — Данько».**

**У карціннай галерэі побач з выстаўкай дарэвалюцыйнай гравюры заўважылі нешта вельмі арыгінальнае і... адкрылі *для сябе* унікальную творчасць сучаснага іспана-савецкага мастака Луіса Артэгі. Адзінага ў сусветнай гісторыі графікі майстра гравюры рулетай, які выпрацаваў дасканалую тэхніку, дасягае 15 ліній у адным міліметры і ствараe гравюры ў 78 фарбаў; працуе ён на паперы ручнога адліву. Партрэты, краявіды, кніжныя ілюстрацыі, зробленыя ім, — незвычайныя. І, да гонару палачан, экспазіцыя гэта не вандроўная: графічныя аркушы Л. Артэгі, якіх не мае пакуль Дзяржаўны мастацкі музей БССР, набыў для Полацкай карціннай галерэі запаведнік.**

**Усе шляхі нашы вялі да Сафіі. (Ах, дружа! Я ўспомніла раптам старую з «Пакаяння» і падумала: якія шчаслівыя, якія багатыя палачане, бо маюць і храм, і дарогу, якая вядзе да яго). Тут мы з вялікай насалодай зноў назіралі, як рэпеціраваў Раждзественскі. І як «лавілі кайф» (даруй, чытач, але інакш і не скажаш) самі музыканты, калі румяны маэстра ў малінавай кашулі весела свінгаваў, варажыў рукамі, рабіў «страшныя» вочы і тыцкаў пальцам у паветра, віртуозна маніпуліраваў палачкай і ўсміхаўся так, што тая ўсмешка ўспрымалася як выразны дырыжорскі знак.**

**Дзе былі кінадакументалісты, хранікёры, тэлевізійшчыкі?! Колькі чароўных імгненняў маглі б спыніць яны. Станаві камеру — і праз дзесяць-дваццаць мінут атрымаеш непаўторны фільм, скажам, «Генадзь Раждзественскі. Рэпетыцыя ў полацкім саборы».**

**Дарэчы, у саборы ён правёў, апроч вечара гайднаўскіх сімфоній, аўтарскі канцэрт А. Шнітке. Гэта было 19 красавіка. Акурат у той дзень у «Известиях» выйшаў добры нарыс пра кампазітара, гаварыць пра якога ўжо і можна, і модна. Вядома, Раждзественскі прапагандаваў творчасць Шнітке і тады, калі яна замоўчвалася, а то і забаранялася. Каму ж, як не яму, пагаварыць — дастойна, без панібрацтва — *пра драматычны лёс* друга, паразважаць пра мову ягоных твораў, сыграць «Музыку для фартэпіяна і камернага аркестра», Канчэрта гроса № 3, «Дыялог для салірyючай віяланчэлі і сямі інструментаў».**

**Які неверагодны «Па-дэ-катр» завяршаў той канцэрт! У кожнай з чатырох частак п'есы асобны аўтар, і з кожнай звязана свая гісторыя. Першую частку, «*Сланы і моські*», Г. Раждзественскі напісаў сам. Другую, «Уздоўж па Пятніцкай», — Э. Дзянісаў (толькі замест нот на аркушах... графічныя малюнкі), трэцюю, «Глушыцель», — А. Пярт, дасціпна трансфармаваўшы вядомую бахаўскую прэлюдыю для клавіра. А дзёрзкае «Поліфанічнае танга» прыдумаў А. Шнітке, які, карыстаючыся лацінскімі назвамі нот, зашыфраваў у гуках ініцыялы канкрэтных асоб.**

**І пра ўсё гэта быў падрабязны і захапляючы расказ дырыжора.**

## Лісток сёмы

Шкадую твайго часу, чытач, таму многае пакідаю ў сваіх асабістых блакнотах. Вось і пра канцэрт Ансамбля салістаў аркестра ДАВТа СССР скажу вельмі каротка. Ігралі «Серэнаду на тэмы оперы Даніцэці» М. Глінкі, адзін з нядаўна знойдзеных накцюрнаў І. Гайдна, творы А. Шнітке («Септэт», «Агучаныя літары», «Гук і водгулле»), «Канчэрта брэвіс» маскоўскага саракагадовага кампазітара Я. Падгайца. Як і летась, канцэрт з любоўю і грунтоўна каменціраваў віяланчэліст Аляксандр Івашкін.

Рэдкаснае сузор'е майстроў, асветнікаў, падзвіжнікаў прывабіў Полацк фестывальны! І цудоўна, што іхняе мастацтва разам з многімі рэдка выконваемымі творамі ўзбагаціла фанатэку Беларускага радыё. Гэта дзякуючы таму, што з Мінска прыехала перасоўная студыя гуказапісу — аснашчаная адпаведнай тэхнікай, вялізная, усім вядомая машына «Шкода».



Вечная музыка...

У машыне, за пультам з мноствам каляровых рычажкоў і мікшэраў, працаваў чалавек, які па-свойму «дырыжыруе музыкай». Яму ніколі не апладзіруюць слухачы, затое вельмі часта — ведаю гэта дакладна — дзякуюць выканаўцы, рэдактары перадач Беларускага радыё, лічаць яго віртуозным спецыялістам. Гэта гукарэжысёр Эдуард Мартэнс.

У Полацку разам са сваімі калегамі гукаінжынерамі У. Пазняком, А. Хаменкам і С. Герасімовічам ён разведваў акустычныя асаблівасці залы. Пачынаўся канцэрт — і ў паўзах паміж творамі, калі мяняўся інструментальны склад і выканаўцы перасаджваліся, перасоўвалі нотныя пульты, Мартэнс з'яўляўся на сцэне, папраўляў, пераставіў мікрафоны і хутка знікаў за кулісамі. Пасля, калі ўся наша «мінская каманда» рушыла на няўклюднай радыёмашыне ў Наваполацк, ён мог нетаропка і зацікаўлена разважаць пра канцэртную праграму, *пра музыку ўвогуле, пра* ўлюбёны тэмбр віяланчэлі, на якой некалі іграў і сам.

Між іншым, гэта менавіта Э. Мартэнс ўратаваў, выцягнуў з правалу, запіс музыкі ў малапрыстойных акустычных умовах палаца «Шкловалакна». Можа, умела расставіў мікрафоны, *можа*, пакруціў карэктары тэмбраў ці скарыстаў рэвербератар — я ў гэтым рады не дам, але ж на магнітнай стужцы, якую мы крыху паслухалі адразу пасля канцэрта, і Чайкоўскі, і Шнітке гучалі досыць аб'ёмна і выразна.

## Лісток апошні

**Нядаўна я слухала перадачу пра заключныя фестывальныя канцэрты. Дзяржаўны камерны *аркестр БССР і хор В. Палянскага*, лютневая музыка ў выкананні Э. Шафранскага (ён таксама каменціраваў свой канцэрт) з удзелам спявачкі Г. Шульгіной, старадаўнія рамансы — рамантычнае, пры свечках, выступленне саліста беларускай оперы Я. Пятрова...**

**Згадалася непаўторная атмасфера Полацка і зрабілася трывожна за лёс трэцяга фестывалю: у наступным годзе плануюцца вялікія скарынаўскія ўрачыстасці, і асноўны цяжар свята давядзецца несці зноў жа гораду Полацку, яго гісторыка-археалагічнаму запаведніку. Традыцыйны музычны фестываль мог бы арганічна ўвайсці ў чараду юбілейных падзей. Але хто возьме на сябе выдаткі? Хіба што на трэці фестываль славутыя артысты паедуць ужо не толькі з-за глыбокай асабістай павагі і прыязнасці да дырэктара запаведніка, да чулай гасціннай публікі, а і таму, што іх, можа, *нарэшце, запросіць кіраўніцтва* культуры рэспублікі? Будзем спадзявацца.**

**Зараз жа я паспрабую растлумачыць табе, чытач, што гэта ў мяне ў загалоўку — наконт правінцыі. Правінцыя, мяркую, канчаецца там, дзе чалавек — на сваім месцы. Там, дзе ён добра, сумленна і захоплена робіць сваю справу. Музыканты, якія пасля зарубежнага турнэ ахвотна едуць у глыбінку і не падбіраюць музыку для «тутэйшай» публікі, а іграюць, як для сябе, тое, што захапляе іх саміх. Знакамітыя маэстра, якія проста і жыва размаўляе з публікай пра складаны творчы свет кампазітара. Палачане, якія маюць рэдкі талент — слухаць, якія ўмеюць *захапляцца разам з артыстамі*. Дзівакі з Мінска, якія ахвяруюць выхадным днём і цягнуцца за блізкі свет да чыстага паветра Мастацтва. Улюбёны ў гісторыю свайго Полацка юнак, які паказвае наведвальнікам краязнаўчага музея рэшткі старажытнай кафлі, што ўласнымі рукамі выкапаў з зямлі. Гаспадары фестывалю, якія кіруюцца *высокімі эстэтычнымі* арыенцірамі і не імкнуцца сэканоміць на духоўных набытках для сваіх землякоў. Усе яны — людзі на сваім месцы. І там, дзе ёсць, дзе паяўляюцца такія *падзвіжнікі*, — канчаецца духоўная правінцыя.**

**Але ўвогуле яна не здасць сваіх пазіцый, не адступіць, пакуль не зжыве сябе «рэшткавы прынцып» стаўлення да культуры, гэтак моцна ўкаранёны і ў эканоміцы і, што асабліва страшна, у масавай псіхалогіі.**

**Так я, дружа чытач, мяркую. Ці ты са мной згодны?**

С. БЕРАСЦЕНЬ.

Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА.

Полацк — Мінск.

## ЦІ СТАЎ «ЛЕТАПІС...» ЛЕТАПІСАМ?

### Рэпліка чытача

**У выдавецтве «Полымя» выйшла на рускай мове кніга, адрасаваная маладым, што ўступілі ў шлюб, — «Летапіс сям'і». Выданне спецыфічнае і таму цалкам пайшло ў ЗАГСы, аб чым аўтару гэтых радкоў паведаміла дзяўчына-прадавец у мінскай кнігарні «Паліткніга».**

**Няма *патрэбы* сцвярджаць, што выданне летапісу сям'і па самой задуме — рэч актуальная, жаданая. З часам такія летапісы могуць стаць збіральнікамі розных сямейных легенд, паданняў і наогул — крыніцай жыццёвага вопыту для будучых пакаленняў. На жаль, названы «Летапіс сям'і» не дае падстаў для такога ўспрымання.**

**Аб'ём брашуры, мяккая, не практычная вокладка аніяк не стасуюцца з запраграмаваным доўгім часам яе жыцця, з багатым матэрыялам будучых сямейных запісаў. І само мастацкае афармленне ў характары вясельнага настрою не для «Летапісу сям'і», які павінен увабраць у сябе ўсе фарбы сямейнага жыцця, бо разлічаны аж на залатыя юбілеі, якія адбудуцца не ў 198... нейкім годзе, як няўважліва пазначана ў адпаведнай застаўцы, а ўжо недзе ў трэцім тысячагоддзі. Вунь куды на самай справе адрасаваны «Летапіс...» То ці да месца тут сёння *модны, кідкі* на вочы стыль, што ідзе ад «масавай культуры»? Ці не больш падышоў бы стрыманы, класічны строй з добрым аб'ёмам свабодных старонак, у добрых прыгожых вокладках, разлічаных на доўгае, вельмі доўгае жыццё «Летапісу...»?**

**Асаблівасцю «Летапісу...» з'яўляюцца вершаваныя застаўкі-эпіграфы да «раздзелаў» (вехаў) сямейнага жыцця. Выкарыстаны ўрыўкі з вершаў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Петруся Броўкі ў перакладзе на рускую мову. Так, у застаўцы да шлюбнага здымка — два чатырохрадкоўі з паэмы Я. Купалы «Яна і я» (тэкст прыводжу ў арыгінале):**

**Стаялі мы. Нявіданыя дзівы**
**Нас абымалі крыллямі сваймі,**
**Шапталі мне: вазьмі яе шчаслівы!**
**Шапталі ёй: сабе яго вазьмі!**

**І рукі злучывалі нам навекі,**
**Благаслаўленне далі нам сваё**
**Ісці ў свет праз горы, долы, рэкі,**
**Ісці супольна праз усё жыццё.**

**Няўжо гэтыя цудоўныя радкі трэба даваць у перакладзе? Няўжо ўкладальнік А. Куліш лічыць, што небеларусы, якія жывуць у Беларусі, іх не зразумеюць? А, можа, так трэба ўяўляць інтэрнацыяналізм. Паэты беларускія, мова руская — пра нацыяналізм ніхто не заікнецца. Але ж — няма што сказаць і пра нацыянальнае. Вымытае адусюль, нават з «Летапісу...», яно памірае «роўнае сярод роўных», не кранyўшы слыху тых, што народзяцца і будуць запісаны ў гэты «Летапіс...»**

**Маладой дзяўчыне з кнігарні «Паліткніга» «Летопись семьи» падабаецца. Упэўнены, што і многім яе сучасніцам — таксама. Але ці з гэтага трэба рабіць выснову? Выхаванне культуры вызначаецца ўзроўнем самой культуры.**

***Дык ці не час сёння прапанаваць маладым, што прыйшлі да шлюбнага запісу, «Летапіс сям'і», адпаведны сэнсу гэтых ёмістых слоў? І каб быў зроблены на роднай мове. Каб тыя двое, што панясуць яго ў жыццё, куды б іх ні закінуў лёс, берагалі яго, як рэліквію не толькі сям'і, але як знак культуры зямлі, адкуль яны родам.***

**В. СТАШЧАНЮК,**
**мастак.**

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Барысу Сачанку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата Мікалая Іванавіча.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне паэтэсе Але Канапельцы з прычыны напаткаўшага яе гора смерці брата.

